# ЛіМ ЛІТАРАТУРА і МАСТАЦТВА

13 ЧЭРВЕНЯ 2003 г. № 24/4210 КОШТ 540 РУБ.



**«Лекцыя» —** старонкі з новага рамана Андрэя ФЕДАРЭНКІ **9**

**«Летапісец Ракі» —** да 65-годдзя Ігара ШКЛЯРЭЎСКАГА **12**

***Дзённік Вячаслава АДАМЧЫКА*** **14-15**


ФЕСТЫВАЛІ

ЗАСНАВАЛЬНІКІ ФЕСТЫВАЛЮ

Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь, Мінскі аблвыканкам, Нясвіжскі райвыканкам, Заслужаны калектыў Дзяржаўны канцэртны аркестр Беларусі, Беларускі Дзяржаўны інстытут праблем культуры

VIII Беларускі фестываль камернай музыкі

"Музы Нясвіжа 2003"

Да 780-годдзя г. Нясвіжа

# НЯСВІЖСКІЯ НЕЗАБУДКІ

***У старасвецкім горадзе, які рыхтуецца справіць сваё 780-годдзе, восьмы раз прайшоў Беларускі фестываль камернай музыкі. Ўражанні ды меркаванні карэспандэнта "ЛіМа" з гэтай нагоды***


гл‌ядзіце на стар. **10-11**


Лаўрэат Міжнароднага конкурсу Ігар ДЗЕДУСЕНКА.
Фота А. Клешчука

13-я ПАЛАСА

*"13-я ПАЛАСА" — СТАРОНКА ГУМАРУ, ПАРОДЫЙ, ПЕРАПЕВАЎ ДЫ ШАРЖАЎ.*


Глядзіце на стар. **13**

# КОЛА ДЗЁН

***Праляцела амаль палова чэрвеня. Было і занадта горача і занадта холадна. Але, нягледзячы на ўсё гэта, на нашых нівах не пуста, бо людзі працуюць у любое надвор'е і ведаюць, што за іх ніхто іхняй работы не зробіць.***

## ПЕРАНОС ТЫДНЯ

Улады Польшчы вырашылі адкласці ўвядзенне ўязных віз для грамадзян Беларусі, Расіі і Украіны, якое было намечана на 1 ліпеня гэтага года. Варшава афіцыйна абавязвалася ўвесці візавы рэжым за шэсць месяцаў да ўступлення ў Еўрапейскі саюз. Аднак, паколькі ўступленне ў Еўрасаюз, раней запланаванае на 1 студзеня 2004 года, адбудзецца на пяць месяцаў пазней, то ўвядзенне віз таксама вырашана перанесці.

## ПЕРСПЕКТЫВА ТЫДНЯ

У час летніх канікул у лагерах змогуць адпачыць 460 тысяч школьнікаў нашай краіны. Са сродкаў дзяржаўнага сацыяльнага страхавання на падрыхтоўку лагераў да сезона выдзелена 44 мільярды рублёў. Гэта сума размеркавана па рэгіёнах краіны ў залежнасці ад колькасці дзяцей школьнага ўзросту. У перыяд летніх канікул прымуць дзяцей больш як 4 тысячы дзённых пляцовак і лагераў, з якіх 230 — з кругласутачным знаходжаннем і столькі ж — з дзённым. Аздараўленне ў гэтым годзе арганізавана ў чатыры змены па 18 дзён кожная.

## ПЛАНЫ ТЫДНЯ

Завяршыць будаўніцтва другой лініі метрапалітэна ў Мінску плануецца ў 2005 годзе, пасля чаго будуць распачаты работы па праводзенні лініі метро ў раёны "Малінаўка" і "Паўднёвы Захад". У план развіцця Мінска да 2030 года ўключана і будаўніцтва трэцяй лініі метро.

## ЧУТКІ ТЫДНЯ

Размовы вакол еўра не сціхаюць. І хоць асноўная прычына гэтага — умацаванне курса адзінай еўрапейскай валюты, але і з'явіліся чуткі, што ў хуткім часе банкноты еўра атрымаюць новую ступень абароны ад падробкі. Інфармацыйнае выданне Cnews паведаміла, што радыёметкі памерам з пясчынку будуць убудоўвацца ў банкноты еўра пра падпісанні пагаднення паміж Еўрапейскім банкам і японскім вытворцам электронікі Hitachi.

## АДКРЫЦЦЁ ТЫДНЯ

У Віцебску ўрачыста адкрылася бібліятэка імя Еўфрасінні Полацкай. Рашэннем Віцебскага аблвыканкама яе імя прысвоена адной з бібліятэк горада, якая знаходзіцца ў мікрараёне "Поўдзень-7".

## ПОСПЕХ ТЫДНЯ

Славуты беларускі тэнісіст Максім Мірны напрыканцы адкрытага чэмпіянату Францыі заняў верхні радок у рэйтынгу лепшых парных тэнісістаў. Раней такога поспеху не дасягаў ніводзін беларускі тэнісіст.

## ВЯРТАННЕ ТЫДНЯ

Народны пісьменнік Беларусі Васіль Быкаў, які жыў на працягу апошніх пяці гадоў за мяжой, вярнуўся ў Беларусь. 19 чэрвеня Васіль Уладзіміравіч адзначыць свой 79-ты дзень нараджэння.

## УШАНАВАННЕ ТЫДНЯ

У Мінскай абласной бібліятэцы імя А. Пушкіна адбылася ўрачыстая цырымонія, на якой пісьменніцы Вользе Іпатавай была ўручана штогадовая прэмія імя Барыса Кіта. У сваім выступленні старшыня "Рабочай групы беларуска-нямецкіх сустрэч" Еханэс Шлооту адзначыў, што гэтая прэмія ўмацуе беларуска-нямецкае супрацоўніцтва ў галіне літаратуры.

## РАШЭННЕ ТЫДНЯ

Беларуская федэрацыя хакея прыняла рашэнне аб назначэнні галоўнага трэнера нацыянальнай зборнай — ім стаў Міхаіл Захараў, які, акрамя таго, па-ранейшаму будзе трэніраваць маладзёжную зборную.

## ЛІЧБЫ ТЫДНЯ

У друку з'явілася інфармацыя, што за чатыры месяцы гэтага года выручка ад продажу спіртных напояў у нашай сталіцы склала 106 мільярдаў рублёў. Гэта амаль на шэсць працэнтаў менш, чым год назад. І колькасць памерлых ад алкагольных атручванняў зменшылася на 26 працэнтаў.



***5 чэрвеня ў сталічнай Зале камернай музыкі выступілі лаўрэаты конкурсу маладых вакалістаў "Убельская ластаўка", прысвечанага творчасці С. Манюшкі.***

праўда: з гадамі напоўніцу раскрыўся музычны дар нашага земляка...

Прыгожае паданне дало назву фестывалю-конкурсу "Убельская ластаўка", які прайшоў ужо чацвёрты раз, выявіўшы новыя перспектыўныя імёны.

Старшыня яго журы прафесар Л. Івашкоў прыгадаў, што першыя два конкурсы праходзілі ў Чэрвені, паблізу радзіннай сядзібы С. Манюшкі, а цяпер адборачны тур адбываецца ў Мінску, дзе кампазітар таксама жыў і вучыўся. З ліку ласоў, засведчыўшы поспехі беларускай вакальнай школы не толькі ў сталіцы, а і ў рэгіянальных музычных навучальных установах.

Вакалісты спаборнічалі ў 2-х узроставых намінацыях, галасы жаночыя і мужчынскія ацэньваліся асобна, таму і новых імёнаў — багата. Сярод першых — Вікторыя Янько, Алег Прохараў, Наталля Александровіч, Валерый Падукоў, Таццяна Ключынская... Авацыямі ганаравала публіка і выступленні Барыса Рудака, кітайскага студэнта Лі Чан Сюй, Андрэя Макарэвіча... Фінальнай кульмінацыяй стаўся бліскучы выхад лаўрэата 1-й прэміі конкурсу мінулага года Аляксандра Кульмакова — студэнта "класа тэнараў", якім славіцца прафесар Л. Івашкоў.



# НОВЫЯ ГАЛАСЫ

Кажуць, што калі ў сям'і Манюшкаў, уладальнікаў сядзібы Убель непадалёк ад Мінска, нарадзіўся сын Станіслаў, у вакно святліцы, дзе стаяла калыска немаўляці, заляцела птушка-ластаўка і пачала майстраваць гняздо. Гэта прынялі за добры знак — маўляў, дзіця будзе адоранае творчым талентам. І пераможцаў мінулых спаборніцтваў выйшлі новыя лаўрэаты міжнародных конкурсаў, маладыя салісты вядомых творчых калектываў. Гэта і Аксана Бондарава, і Уладзімір Громаў, і Віктар Цыркуновіч...

Канцэрт лаўрэатаў, які адбыўся 5 чэрвеня, парадаваў суквеццем свежых маладых га...

**С. Б.**

***НА ЗДЫМКУ: лаўрэаты перад канцэртам.***
***ФОТА В. СТАВЕРА***

**ІМПРЭЗЫ**

# КУПАЛАЎСКІ КІРМАШ

Стала ўжо добрай традыцыяй у хвіліны радасці збірацца ў вечна гасцінным музеі Купалы – Доме, дзе пануе яе Вялікасць Купалава Паэзія. Да Міжнароднага дня абароны дзяцей Дзяржаўны літаратурны музей Янкі Купалы наладзіў адметнае мерапрыемства – "Купалаўскі кірмаш".

"Купалаўскі кірмаш" падрыхтавалі супрацоўнікі і выхаванцы Нацыянальнага дзіцячага сада № 202: загадчыца Бажэна Грыгор'ева, музычны кіраўнік Яўгенія Собаль, настаўнік-лагапед Дзіна Панасюк, псіхолаг Наталля Жукоўская, фізічны кіраўнік Алена Заяц, супрацоўнік дзіцячага сада Уладзімір Баль, а таксама загадчыца бібліятэкі комплексу пазашкольнай работы "Золак" Галіна Рамусік.

Свята атрымалася надзвычай вясёлае. "Купалаўскі кірмаш" складаўся з беларускіх песень, танцаў, дзіцячых вершаў Янкі Купалы. Наша аўдыторыя – выхаванцы дзіцячага сада № 272 са сваімі педагогамі, а таксама супрацоўнікі музея былі ў захапленні ад незвычайнага каня, на якім і прыехалі нашы госці.



У Доме Купалы сабраліся тыя, хто сапраўды жыве "З Купалам у сэрцы". Дзеці з задавальненнем спявалі, танчылі, чыталі вершы Янкі Купалы. Напрыканцы ўсе ўдзельнікі і гледачы "Купалаўскага кірмаша" атрымалі памятныя сувеніры музея.

**Дзіяна КАВАЛЕВІЧ, старшы навуковы супрацоўнік музея Янкі Купалы**
***ФОТА Сяргея ЛУК'ЯНАВА***

**ПРЭЗЕНТАЦЫІ**

# ЗАХАПЛЯЮЧЫ ЎРОК ЛІТАРАТУРЫ

Незвычайныя "практычныя заняткі" па сучаснай беларускай літаратуры былі праведзены 27 мая ў Белдзяржпедуніверсітэце імя М. Танка. Ініцыятарам іх выступіў прафесар гэтага універсітэта, пісьменнік А. Рагуля. Мерапрыемства прысвячалася выхаду ў свет рамана Васіля Якавенкі "Надлом". Запрошаныя (навукоўцы М. Кенька, Я.Янушкевіч, В. Пазнякоў, М. Малько, пісьменнікі Э. Ялугін, У. Дамашэвіч, С. Явар, В. Стралко, грамадскія дзеячы А. Дабравольскі, А. Калубовіч) па-належнаму ацанілі работу над раманам, над якім В. Якавенка працаваў ажно 7 гадоў. Спатрэбіліся аўтару і архіўныя матэрыялы, і аўдыёзапісы гутарак з "праваабразам" галоўнай гераіні твора — Марыі Дзямковіч. Раманіста сур'ёзна ўсхваляваў лёс беларусаў як нацыі ў пераломны гістарычны час. Яму ўдалося намаляваць у сваім творы постаці тыповых прадстаўнікоў нашага народа.

В. Якавенка расказаў пра гісторыю напісання рамана, падзяліўся з прысутнымі сваімі меркаваннямі наконт будучыні Беларусі ў сувязі з духоўным і "матэрыяльным" Чарнобылем. Зацікаўленае даследаванне гісторыі Бацькаўшчыны выклікала неабходнасць у знаёмстве В. Якавенкі з кнігай Ю. Туронка "Беларусь пад нямецкай акупацыяй". Дапамаглі і паездка пісьменніка ў ЗША, яго сустрэчы з тамтэйшымі беларусамі. І нездарма адзін з галоўных, цэнтральных момантаў рамана — параўнанне чалавечага грамадства з пчаліным роем. Калі прыйшла бяда, трэба ратаваць разам, усім гуртам... В. Якавенка выказаў тое, што хацеў, прычым зрабіў гэта роўна, на адна нолькава высокім мастацкім узроўні.

Пісьменнік пастараўся па магчымасці адказаць на ўсе пытанні сваіх чытачоў. Немалаважна тое, што імпрэза адбывалася ў памяшканні, дзе сабрана вялікае мноства прадметаў народнай культуры — ручнікоў, гладышоў, прылад працы і інш. Гэта яшчэ больш падкрэслівала далучанасць усіх прысутных да сакральных асноў нацыянальнага быцця, абуджала роздум аб сугучнасці настрояў, спадзяванняў і мар беларусаў усіх часоў.

**С. Я.**

# РЭДАКЦЫЙНА-ВЫДАВЕЦКАЯ ЎСТАНОВА «ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА»

## НАГАДВАЕ:
## ІДЗЕ ПАДПІСКА НА 2-ое ПАЎГОДДЗЕ 2003 ГОДА!

**Шаноўныя чытачы! Ідзе падпіска на другое паўгоддзе 2003 года. На выданні Рэдакцыйна-выдавецкай установы "Літаратура і мастацтва" можна падпісацца ў любым паштовым аддзяленні нашай краіны. Кошты засталіся тымі ж, што і былі ў першым паўгоддзі. Для ўстаноў Міністэрства культуры і Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь адкрыта льготная падпіска.**

### "Літаратура і мастацтва"

Індывідуальная (індэкс — 63856)
**на 1 месяц — 2500 руб.**
**на 3 месяцы — 7500 руб.**
**на 6 месяцаў — 15000 руб.**
**Ведамасная (індэкс — 63857)**
**на 1 месяц — 4000 руб.**
**на 3 месяцы — 12000 руб.**
**на 6 месяцаў —24000 руб.**
Ведамасная льготная (індэкс — 63880)
на 6 месяцаў — 16800 руб.

### "Полымя"

Індывідуальная (індэкс — 74985)
**на 1 месяц — 2500 руб.**
**на 3 месяцы — 7500 руб.**
**на 6 месяцаў — 15000 руб.**
Ведамасная (індэкс — 00141)
**на 1 месяц — 3500 руб.**
**на 3 месяцы — 10500 руб.**
**на 6 месяцаў — 21000 руб.**
Ведамасная льготная (індэкс — 00727)
на 6 месяцаў — 16800 руб.

### "Маладосць"

Індывідуальная (індэкс — 74957)
**на 1 месяц — 2600 руб.**
**на 3 месяцы — 7800 руб.**
**на 6 месяцаў — 15600 руб.**
Ведамасная (індэкс — 00137)
**на 1 месяц — 3800 руб.**
**на 3 месяцы — 11400 руб.**
**на 6 месяцаў — 22800 руб.**
Ведамасная льготная (індэкс — 00731)
на 6 месяцаў — 16800 руб.

### "Крыніца"

Індывідуальная (індэкс — 74824)
**на 1 месяц — 2500 руб.**
**на 3 месяцы — 7500 руб.**
**на 6 месяцаў — 15000 руб.**
Ведамасная (індэкс — 74940)
**на 1 месяц — 3500 руб.**
**на 3 месяцы — 10500 руб.**
**на 6 месяцаў — 21000 руб.**
Ведамасная льготная (індэкс — 00730)
на 6 месяцаў — 16800 руб.

### "Нёман"

Індывідуальная (індэкс — 74968)
**на 1 месяц — 2500 руб.**
**на 3 месяцы — 7500 руб.**
**на 6 месяцаў — 15000 руб.**
**Ведамасная (індэкс — 00238)**
**на 1 месяц — 3500 руб.**
**на 3 месяцы — 10500 руб.**
**на 6 месяцаў — 21000 руб**
Ведамасная льготная (індэкс — 00728)
на 6 месяцаў — 16800 руб.

### "Всемирная литература"

Індывідуальная (індэкс — 74863)
на 1 месяц — 2500 руб.
на 3 месяцы — 7500 руб.
на 6 месяцаў — 15000 руб.
Ведамасная (індэкс — 00135)
**на 1 месяц — 3500 руб.**
**на 3 месяцы — 10500 руб.**
**на 6 месяцаў — 21000 руб**
Ведамасная льготная (індэкс — 00729)
на 6 месяцаў — 16800 руб.




ВЫСТАВЫ

# "Я ТУТ БАЧУ СВОЙ КРАЙ"



У Дзяржаўным літаратурным музеі Янкі Купалы адбылася выстаўка фатаграфій старэйшага беларускага фотамайстра Уладзіміра Няхайчыка."Я тут бачу свой край, поле, рэчку і бор, Сваю матку-зямлю – Беларусь" — гэтыя пранікнёныя радкі з Купалавага верша "Гэта крык, што жыве Беларусь" і далі назву выстаўцы.

Цудоўныя лірычныя беларускія пейзажы і сюжэтныя краявіды, непаўторная прыгажосць купалаўскіх мясцін, старажытныя куточкі Бацькаўшчыны зачароўваюць, прасвятляюць, наталяюць. Кожная фатаграфія У. Няхайчыка напоўнена цеплынёю, пяшчотаю, любоўю да сваёй зямлі, яе гісторыі, роздумам аб часе сённяшнім.

Невыпадкова, што 9-ая персанальная фотавыстаўка Уладзіміра Няхайчыка экспанавалася ў музеі Янкі Купалы. Уладзімір Андрэевіч – даўні сябар музея, браў удзел у І-ым Міжнародным Купалаўскім фотапленэры (1997 г.), абышоў, аб'ехаў, абгледзеў і занатаваў усе купалаўскія мясціны, дзе нарадзіўся, сталеў, мужнеў Іван Луцэвіч, дзе лунала яго паэтычная думка і дзе ён стаў тым Янкам Купалам, якога пазнаў і пачуў увесь свет.

**Г. КУШАЛЬ**

ВЕЧАРЫНЫ

# СВЯТА ПАЭЗІІ

***У Мінскім інстытуце кіравання стала ўжо традыцыяй запрашаць на вечарыны людзей творчых — мастакоў слова і пяра.***



На гэты раз гасцямі інстытута сталі галоўны рэдактар часопіса "Маладосць" Раіса Баравікова, намеснік галоўнага рэдактара Алесь Бадак, галоўны рэдактар "ЛіМа" Віктар Шніп і супрацоўніца "ЛіМа" Людміла Рублеўская.

Прывітальным словам сустрэчу пачаў прарэктар па вучэбнай працы МІК Вячаслаў Табаравец, які адзначыў важнасць мерапрыемстваў у выхаваўчай працы. Потым далі слова гасцям.

Студэнты таксама падрыхтаваліся да сустрэчы. Пастаянныя ўдзельнікі мерапрыемстваў вядучая Алена Шахлан, студэнты Алесь Аляксандраў, Генадзь Тарабонда, Ірына Кузьменка, Надзея Лагутка, Таццяна Арцюшэўская і Таццяна Лаўдар спявалі песні і цудоўна дэкламавалі вершы беларускіх пісьменнікаў. А маладыя, нават знакамітыя ў інстытуцкім асяроддзі, паэты Сяргей Тунчык і Іна Ігнацік чыталі аўдыторыі ўласныя вершы.

З заключным словам выступіла дацэнт кафедры, выкладчык роднай мовы Зінаіда Браніславаўна Варановіч. Менавіта яе стараннямі і студэнтаў-удзельнікаў інстытуцкага творчага аб'яднання "Натхненне", была арганізавана і праведзена гэтая сустрэча. Зінаіда Браніславаўна адзначыла, наколькі сур'ёзна і адказна ставіліся студэнты да падрыхтоўкі гэтае сустрэчы.

На яе думку, маладыя таленты павінны мець падтрымку і магчымасць развіваць свае здольнасці калі не на прафесійнай сцэне, дык на інстытуцкіх мерапрыемствах.

Сустрэча прайшла ў цёплай сяброўскай атмасферы, што яшчэ раз падкрэсліла, наколькі важна праводзіць такія вечарыны для моладзі.

**Андрэй КАМОСКА,**
**студэнт МІК**

***ФОТА Таццяны ЛАШКЕВІЧ***

**НА ЗДЫМКУ: выступае Раіса БАРАВІКОВА.**

СУСТРЭЧЫ

# У ВЁСКУ ЗАЗІРАЮ, ЯК У СЛОЎНІК...

Сваё 70-годдзе на радзіме, сярод землякоў адзначыў паэт Юрась Свірка.

За вялікі ўклад у развіццё беларускай нацыянальнай літаратуры, патрыятычнае выхаванне моладзі і ўшанаванне роднага краю Докшыцкі райвыканкам узнагародзіў слыннага паэта Ганаровай граматай, якую на прыёме ў райвыканкаме ўручыў яго старшыня В. Палідавец. На адным дыханні прайшлі творчыя сустрэчы лаўрэата прэміі імя А. Куляшова Ю. Свіркі з прыхільнікамі яго таленту ў Докшыцах і Бягомлі, дзе, акрамя юбіляра, прынялі ўдзел яго сябры па пяры Алесь Пісьмянкоў, Казімір Камейша, Вячаслаў Корбут. Арганізатарам паездкі Ю. Свіркі да землякоў стала дырэктар Докшыцкай цэнтралізаванай бібліятэчнай сістэмы І. Салодкіна.

**Тамара ЧУВАХОВА,**
**загадчыца аддзела пісьмаў**
**і сацыяльных праблем рэдакцыі Докшыцкай раённай газеты**
**"Родныя вытокі".**

## НА ХВАЛЯХ БЕЛАРУСКАГА РАДЫЁ

**Шырокая панарама літаратурнага жыцця паўстане перад слухачамі ў аўтарскіх праграмах "Брама", "Авансцэна", "Палітра", "Сентыментальнае паляванне", якія прагучаць як звычайна, з аўторка па пятніцу ў 22 гадзіны 30 хвілін. З нуля гадзін штодзённа акрамя выхадных — "Кароткія гісторыі". У суботу ў 10.45 — "Літаратурны праспект" з Алесем Бадаком. Сярод іншых тэм прагучыць матэрыял пра падрыхтоўку да 10-га ўсебеларускага фестывалю беларускай паэзіі і песні ў Маладзечне.**

**У нядзелю ў 16.15 — праграма "Клас і К", якую вядуць кампазітар А. Літвіноўскі і пісьменніца Маргарыта Прохар. Госці жывога эфіру — кампазітары, выканаўцы класічнай музыкі і літаратуры.**

**Усе гэтыя і іншыя перадачы прагучаць па першым нацыянальным канале радыё, а канал "Культура" таксама прапануе цікавыя сустрэчы. "Клуб дамаседаў" запрашае штодзённа на чытанне аповесці У. Караткевіча "Ладдзя роспачы". Пачатак у 11 гадзін. Тут жа ў сераду і чацвер гучаць аўтарскія праграмы Васіля Макарэвіча "Натхненне".**

**"Літаратурны аўторак" з 14.10 да 17.00 прапануе шэраг аўтарскіх літаратурных праграм. У суботу — паўтор праграм "Сентыментальнае паляванне", "Гаспода", "Брама" (9.00, 10.10 і 15.45). Паўтор праграмы "Палітра" прагучыць у нядзелю, у 18.30. У 19.00 — "З фондаў радыё". Л. Філатаў. "Казка пра Фядота-Стральца, удалога малайца", Я. Колас "Крыніца". Алегарычнае апавяданне; М. Лермантаў "Тамань". Урывак з радыёспектакля; Ф. Дзюрэнмат "Фізікі". Урыўкі са спектакля.**

**Н. К.**

•

**З творчым візітам 16 мая Гомель наведалі: старшыня СБП А. Пашкевіч, Б. Пятровіч, Э. Акулін і А. Федарэнка.Сумесна з абласным аддзяленнем СБП была наладжана літаратурная вечарына на філфаку ГДУ. Разам са сталічнымі гасцямі перад студэнтамі і выкладчыкамі факультэта выступілі гомельскія літаратары: В. Ткачоў, Т. Мельчанка, В. Ярац, Н. Шклярава, Г. Говар, Ю. Фатнеў, Л. Раманава, С. Сыс, Э. Усціновіч.**

•

**20 мая адбылася творчая сустрэча навучэнцаў мінскага каледжа № 24 з намеснікам старшыні СБП, паэтам і бардам Эдуардам Акуліным. Э. Акулін распавёў аб новым літаратурна-мастацкім часопісе "Дзеяслоў", пазнаёміў слухачоў са сваімі новымі вершамі і песнямі, адказаў на шматлікія пытанні прысутных.**

•

**"Вясновыя дзеясловы" – пад такім назовам у вялікай зале Дома літаратара 22 мая прайшла літаратурна-музычная вечарына. У ёй узялі ўдзел галоўны рэдактар часопіса "Дзеяслоў" Б. Пятровіч, а таксама аўтары выдання: А. Вярцінскі, В. Зуёнак, Л. Дранько-Майсюк, У. Арлоў, М. Скобла, А. Хадановіч, Р. Сітніца. Лірычнаму настрою імпрэзы спрыялі песні ў выкананні А. Камоцкага, З. Сідаровіча, В. Чумічовай, А. Касценя. Вёў вечарыну Э. Акулін.**

•

**У Мінскім педагагічным каледжы імя М. Танка 23 мая адбылася прэзентацыя кампакт-дыска Э. Акуліна "Напачатку была песня," у які ўвайшлі творы, напісаныя аўтарам за апошнія 22 гады. Вечарына сталася сапраўдным святам беларускай аўтарскай песні, паэзіі і музыкі .**

•

**25 мая да помніка Максіма Багдановіча на Траецкай гары сабраліся шчырыя прыхільнікі ягонай творчасці, каб ушанаваць памяць самага маладога класіка беларускай паэзіі. Школьнікі, студэнты, прадстаўнікі творчай інтэлігенцыі ўсклалі кветкі да помніка.**

**Слова пра паэта сказалі былы дырэктар музея М.Багдановіча Алесь Бяляцкі і намеснік старшыні СБП Эдуард Акулін.**

**ЯнАк**



# «ДАЙ РУКУ МНЕ, АДЗІНЫ МОЙ БРАТ»



Сітуацыя і праўда пазаштатная. Хачу расказаць пра цікавага і самабытнага паэта Сцяпана Сяргея, але, каб вобраз творцы выйшаў больш поўным і жыццёвым, спачатку я павінен згадаць ягонага роднага брата Аляксея. Не трэба напружваць памяць: Сцяпан і Аляксей — гэта імёны, Сяргей — прозвішча, даволі звычайнае ў Ляхавіцкім раёне, асабліва ў мясцовасці, што шырокай урадлівай раўнінай імкнецца да бяскрайніх слуцкіх разлогаў. Тут дзесьці акурат пасярэдзіне ўяўнага трохкутніка, утваранага буйнымі селішчамі Сваятычы — Падлессе — Жарабковічы, прытулілася ў чэзлым палясоўі невялікая вёска Шавялі, дзе спрадвеку ўсё было як у добрых людзей: малаком пышнай квецені абліваліся майскія сады, у спалавелых жытах дацямна плакаліся перапёлкі, а наводшыбе ў хісткім чароце струменілася малая рэчка Шавялянка — неспатольная забава і пацеха вясковай дзятвы.

Аднойчы, здаецца, ці не ў 1966 годзе, каля я ўжо меў пэўны журналісцкі вопыт у штаце раённай газеты, менавіта з вёскі Шавялі ў рэдакцыю прыйшоў селькораўскі допіс і лёг на мой стол з рэзалюцыяй рэдактара В. Шталя рыхтаваць да друку. Я прачытаў ліст і быў прыемна ўражаны: ды што тут рыхтаваць! Аўтар відавочна валодаў мастацкім стылем, адчуваў слова, і ягоны допіс не патрабаваў ніякай праўкі, больш таго, кажучы жартам, селькор не забыў дасласць цэлы "камплект" патрэбных знакаў прыпынку, і тыя коскі, працяжнікі, двухкропі'і аказаліся дакладна на сваіх месцах. Заметка "Школа — калгасу, калгас — школе" ў першапачатковым аўтарскім варыянце неўзабаве і была надрукавана ў "раёнцы". Павагу да невядомага мне сельскага карэспандэнта выклікаў той неаспрэчны факт, што пра добрыя справы сваіх землякоў у рэдакцыю талкова напісаў школьнік, вучань, можа, сёмага ці восьмага класа Аляксей Сяргей. Сабе ж на турботу ён так і не кінуў гэты скрутны газетны занятак, бо з цягам часу набыў журналісцкую адукацыю і цяпер вось ужо шмат гадоў працуе на Берасцейшчыне рэдактарам раённай газеты "Драгічынскі веснік".

Вельмі доўга — ні тады, у сваім далёкім юнацтве, ні намнога пазней, калі асабіста пазнаёміўся з былым селькорам, а сёння сталым майстрам пяра — я нават не падазраваў, што ў Аляксея Сяргея ёсць брат Сцяпан, надзелены несумненным пісьменніцкім дарам. Нарадзіўся ён у 1953 годзе, дзяцінства правёў на маляўнічым улонні рэчкі Шавялянкі, дзе чуйнаму сэрцу адкрываліся зямныя горычы і парадоксы быцця, хоць пасля заканчэння Беларускага політэхнічнага інстытута даўно жыве і працуе ў сталіцы. Прызнаны паэт, якім стаў за нейкае адно дзесяцігоддзе, Сцяпан Сяргей у хлапечым узросце так, як старэйшы брат, не дасылаў селькораўскія допісы ў газеты — цішком асвойваў паэтычны чарнатроп, спрабаваў нярэдка прайсціся па нязведаным празаічным бальшаку, упарта ўтойваючы ад чужых вачэй відавочную прыхільнасць да прыгожага пісьменства. Тайна крэўных генаў, здольных у яркіх мастацкіх вобразах асэнсоўваць жыццё і ўзнаўляць яго на паперы, адкрылася мне, зноў жа, выпадкова. Аднаго разу Сцяпан Сяргей, чалавек сціплы і крыху як бы сарамлівы, прынёс у часопіс "Маладосць" свае новыя вершы, і вось тут у размове высветлілася нечаканае: журналіст Сяргей і пісьменнік Сяргей выйшлі з-пад аднаго бацькоўскага даху, па якім гупалі калісьці спелыя антонаўкі. Слаўная ўсё ж вёска Шавялі, што нарадзіла такіх здольных хлопцаў, але там, дзе чулася бацькоўская ласка і пяшчота, цяпер, на жаль, "халодным маўчаннем ляжыць белы снег ля счарнелых крыжоў". З верша Сцяпана Сяргея, прысвечанага брату Аляксею:

*Гэты боль, як на памяць засечкі —*
*Горкіх многа ў жыцці нашым страт.*
*Дагараць памінальныя свечкі.*
*Дай руку мне, адзіны мой брат.*

*Пастаім ля пакінутай хаты,*
*Свет вялікі — радзіма адна.*
*Без бацькоў будуць горкімі святы*
*І шчымлівей на сэрцы віна.*

Чым тут суцешыш пякучы векавечны боль? Шляхі чалавечыя, як і боскія, невядомыя і неспазнаныя. Між тым падборкі вершаў Сцяпана Сяргея, якія друкаваліся ў "Маладосці", прынеслі аўтару заслужанае прызнанне ў чытачоў. Помніцца, у рэдакцыю часопіса не адзін раз званілі і прасілі ягоны адрас ці тэлефон. І гэты факт асабліва прыемны, бо таленавіты паэт, жывучы ў Мінску і бавячыся паблізу літаратурных колаў, не дужа часта дакучаў выдаўцам. Прайшло мала часу, і вершы Сцяпана Сяргея ахвотна пачалі друкаваць часопіс "Полымя", штотыднёвік "Літаратура і мастацтва", многія іншыя рэспубліканскія выданні. Чаму б, скажыце, і не звярнуць ўвагу, напрыклад, на вось гэтыя шчырыя, праніклівыя, поўныя даверу радкі:

*Спадае раса на быльнёг сухадолу,*
*Мацнее штодня прыцяжэнне*
*зямлі —*
*Напоўнены колас схіляецца долу,*
*І яблыкам цяжка вісець на галлі.*

*Нырне паплаўком жоўты лісцік*
*з асіны,*
*У ворана голас прастуджана злы.*
*Ужо чырванеюць на восень рабіны,*
*І радасць палёту згубілі буслы.*

Вядома, дрэнныя справы, калі нават гордыя птахі губляюць радасць палёту, але па-сапраўднаму ўражлівыя страфы, прыведзеныя вышэй, можна было б смела паставіць эпіграфам да зборніка паэзіі Сцяпана Сяргея "Буслы на ржышчы", які быў выдадзены ў папулярнай некалі серыі "Бібліятэка часопіса "Маладосць". Вельмі ж кідкі, зрокава вобразны і наогул характэрны для заканчэння лета акварэльны малюнак прыроды ўбачыў аўтар. Тут і шчымлівы смутак па пражытым часе, і нечаканасць аўтарскага разумення жыцця, таму што буслы, якія неахвотна збіраюцца ў палёт, запамінаюцца адразу, з першага прачытання. Дарэчы, амаль усе творы паэта напоўнены асабіста перажытым, тым, што нельга прыдумаць, што само выліваецца з душы і сэрца. Увогуле ягоная паэзія вызначаецца арганічным зліццём пачуцця, сталай думкі, вобразнасці, яркай метафарычнасці, аб чым сведчыць хоць бы верш "Пастараль":

*Зорны чэрвень над ціхай зямлёй,*
*У лугах — сенакосная лета.*
*Нам так хочацца сёння з табой*
*У шчаслівыя верыць прыкметы.*

*Пахнуць сенам твае валасы,*
*А на вуснах — крышталікі мёду,*



Аляксей СЦЯПАН

*І слязінкі нябеснай расы*
*Абяцаюць на заўтра пагоду.*

Далей у гэтым вершы ёсць згадка пра неадчэпныя грахі, пра судны час і начныя — у росах — лугі "пад аховаю зор Валапаса". Калі аўтар верыць у шчаслівыя прыкметы, то няхай паверыць і чытач. Трошкі наіўна, але па прыродзе паэтычнага таленту Сцяпан Сяргей — тонкі лірык. Мала таго, лірык, які выдатна ведае жыццё, фальклор, сучасную беларускую паэзію, ды і не толькі беларускую. Яму ўласцівы катэгорыі як сацыяльныя, так і эстэтычна-этычныя. Адчуваць чужыя беды і гора, нібы свае, бачыць прыгажосць у тым, што, здавалася б, не паддаецца паэтызацыі, дадзена не кожнаму. Сцяпан Сяргей якраз і валодае гэтымі выдатнымі якасцямі, а карані ягонай паэзіі сілкуюцца жыватворнымі і магутнымі сокамі зямлі.

*Гэта восені першы дакор —*
*Я спазніўся з гатовым адказам,*
*І адкрыўся халодны прастор*
*За прыціхлым рачным пералазам.*

*І жыццё за пакуты душы*
*Зноў заплаціць той самай манетай...*
*Як рабіны гараць у цішы,*
*Колькі смеласці ў чырвані гэтай!*

Калі ў лясах запальваюцца рабінавыя гронкі, вяртаецца даўняя журба і зноўку "захочаш цяпла, як калісьці". Нягледзячы на тое, што працуючы інжынерам-будаўнікам, філалагічныя веды, Сцяпан Сяргей назапашваў пераважна самаадукацыяй, ён тонка адчувае беларускае слова, і гэтае слова ў яго, як сказаў нехта, "роснае", жывое, свежае. Пад пяром творцы слова набывае смак, водар, пах і ягоныя пялёсткі сапраўды зіхацяць іскрыстай ранішняй роснасцю. Паэтычныя радкі, зрэшты, могуць бухмата абсыпацца і звонкім інеем, акурату той самы час, калі марознымі начамі "Рыбы ў невадзе зорным лускою сярэбранай ярка мігцяць". Сцяпан Сяргей любіць зіму з яе снегападамі і завеямі. Можа, таму яго новы зборнік вершаў, што лучыў пабачыць свет напярэдадні 50-годдзя паэта, названы коратка і ёмка — "Снежань". Нават з вокладкі кніга нябесна-блакітнага колеру і такая ж яна і ў сярэдзіне — высокая і празрыстая зместам.

Гэта нялёгкая справа — "шукаць да Бога дарогу", бо там, "за чорным парогам — ні птушак, ні дрэўца, ні нават куста". Мала здабыта, багата страчана, ды вельмі горычна "хварэць душой пад шэрым небам" у час "зацьмення розуму, зацьмення сэрцаў". Кніга "Снежань" пацвярджае грамадзянскую пазіцыю творцы — "аслепленым душам не дайсці да Бога". За чорным парогам — холад і цемра. Зноў жа, боль за дзяржаву, боль за гібель матчынай мовы — як уласны боль. Нездарма так часта памяць вяртае паэта на радзіму, у вёску Шавялі, дзе "над ракою цёплым ранкам бяліла маці палатно". І ў новай паэтычнай кнізе творца не забывае адвечныя карані і вытокі, помніць усё, што ў сваёй маральнай аснове яднала наша братэрства і крэўнасць, нашу чалавечую годнасць. З верша Сцяпана Сяргея, прысвечанага брату Аляксею:

*Яшчэ бруіліся крыніцы,*
*Ты помніш смак вады той, брат?*
*Яе нам болей не напіцца...*
*О як баліць душа ад страт!*

*У белых росах стынуць ранкі,*
*Звідна трывожацца шпакі.*
*Няма на картах Шавялянкі,*
*Дзяцінства нашага ракі.*

Безумоўна, да свайго юбілейнага ўзросту сябра Саюза беларускіх пісьменнікаў Сцяпан Сяргей прыйшоў з даволі важкім творчым набыткам. Паэтычны "Снежань" храбусткім празрыстым інеем шчодра абсыпаў грунтоўныя і сталыя апавяданні, якія творца апошнім часам пастаянна друкуе ў часопісах "Полымя", "Маладосць", штотыднёвіку "Літаратура і мастацтва". І ў вершаваных пасланнях да брата Аляксея шчаслівую пару маленства паэт згадвае невыпадкова: памяць пра страчаную рачулку Шавялянку і сягоння ўсё яшчэ "расшевеливает пламень чувств". Дык няхай ярка і палымнеюць яны, хоць з журбой і пакутай, гэтыя светлыя і шчырыя пачуцці.

**Віктар ГАРДЗЕЙ**



## АТРЫМАЛІ ЗАДАВАЛЬНЕННЕ

Не так часта бывае на творчых вечарынах, калі гледачы просяць працягваць сустрэчу. Але менавіта так адбылося падчас імпрэзы з удзелам паэта Навума Гальпяровіча ў Чырвоным касцёле на сцэне тэатра аднаго акцёра "Зніч". Яна насіла назву "Святло ў акне" і была прысвечана новай кнізе паэта.

Вершы Н. Гальпяровіча чыталі ўдзельнікі народнага літаратурнага тэатра "Жывое слова" пад кіраўніцтвам Алены і Юрася Чарнякаў, песні на яго словы, якія паклалі на музыку кампазітары, выконвалі адзін з аўтараў музыкі народны артыст Беларусі Эдуард Зарыцкі і салісты ансамбля "Харошкі" Таццяна Машанская і Андрэй Дзяргай.

У сустрэчы бралі ўдзел паэты Анатоль Вярцінскі, Уладзімір Скарынкін, Уладзімір Марук, Віктар Шніп, Мікола Шабовіч, Ганад Чарказян. І ў кожнага знайшлося яркае трапнае слова на адрас віноўніка ўрачыстасці. Увогуле, было шмат цеплыні, гумару, і, канечне ж, шчырай лірычнай паэзіі, якая характэрна для творчасці Навума Гальпяровіча.

**Н. К.**




***Пятніца, 13 для кагосьці можа быць і вельмі шчаслівым днём. Сяброўка суполкі маладых творцаў, "Літаратурны квартал" Дар'я Лосева, напрыклад святкуе гэтым днём сваё васемнаццаціголдзе.***
***Дар'я заканчвае Мінскую гімназію № 23 і абірае сабе далейшы шлях. Але якую б прафесію Даша не выбрала, адчуваецца, што паэзія застанецца яе любоўю і прызваннем на ўсё жыццё.***

**Дар'я ЛОСЕВА**



# МАЯ ПАЭЗІЯ — З ЖЫЦЦЯ...

•

*Хачу, каб вершы мае*
*Калыхалі дрэвы,*
*Сонца падхоплівалі прамяні.*
*Зоркі — нагбом для свайго*
*сугрэву*
*Пілі ў азяблай сваёй глыбіні.*
*Каб смяротна хворая на адчай*
*свой мама*
*Ніколі не ўмёрла — у вершах*
*таксама.*

•

*Не палосы, а цэлыя жыцці*
*Я ў адным жыцці пражываю.*
*Перапёлкай была я ў жыце*
*І вясёлкай зіхцела ў маі.*
*І рамонкам, і медуніцай,*
*І сасонкаю, і вярбой.*
*Шчэ б падкняжанскаю*
*крыніцай! —*
*Пажадаю сабе з журбой.*

•

*Дзіўна, што ніхто не змог*
*Падсабіць, як было трэба.*
*Быў жа нехта, нібы Бог,*
*Мог дастаць і неба.*

*А душу адну ў слязах,*
*З горкім стогнам дзеткі*
*Раўнадушна — проста жах! —*
*Патаптаў. Свет г э т к і!*

•

*Мая паэзія — з жыцця,*
*Ад ніў, ад сонца,*
*Ад хмарак сумнага зліцця,*
*Што над душой бясконца.*
*Мая паэзія — з жыцця,*
*Ад той дарогі,*
*Што напачатку — з адкрыцця*
*Людзей і Бога!*

•

*Я такая ціхая, як песня,*
*Што ліецца з раненага сэрца.*
*— О, як хочацца мне есці!*
*Падарыце, людцы, каб*
*пад'есці, —*
*Нам цягнула ручанькі бабуля.*
*А ў маёй кішэні было пуста.*
*І ў кішэні мамы — гэтаксама...*

*...Сніцца мне начамі хлеба*
*луста,*
*Не далі што бабцы ані я,*
*ні мама...*

•

*Кажа мама: — Людзі*
*аддаляюцца,*
*Далей сябе не чуюць, не бачаць.*
*— Не хачу я так, мама,*
*Не трывож мяне, мама,*
*У мяне ўсё іначай!*
*Вось пад неба ўцякла,*
*зоркі кратаю*
*І дзіўлюся, якія гарачыя!*
*Гэта душы гараць, што людзі*
*не ўбачылі!*
*Як мая сёння душачка,*
*што без падушачкі...*
*Ты прабач мяне, мама...*



# СУГУЧЧЫ ГАРМОНІІ

**"Жыццё, ў яго склалася", — мала пра каго можна сказаць такія словы. Паэта, лаўрэата Дзяржпрэміі Беларусі, кавалера ордэна Францыска Скарыны Уладзіміра Карызну хацелася б ахарактарызаваць якраз гэткім чынам. Бо, што ні гавары, а збылося і адбылося ў яго, відаць, усё, аб чым некалі марылася ў дзяцінстве, юнацтве. Сааўтар гімна краіны, вядомы ў Беларусі і за мяжою чалавек, таленавіты лірык-песеннік... Цяпер у яго выйшла чарговая кніжка вершаў — "Выбранае". На вокладцы яе пазначана: "Хвіліна святла". Так, сапраўды, чытач мае хвіліну святла, калі знаёміцца з гэтым паэтычным зборнікам!..**



**Патрыятычныя творы, вершы пра каханне, творы, якія сталі песнямі, лірыка, прысвечаная бацьку і маці паэта... Усе іх аб'ядноўвае адно: чысціня. Празрыстасць стылю паэта, святло яго думак, душы, зорная акрыленасць натхнёнай творчасці. Крылы — іх заўсёды меў паэт. За спінай і на вастрыі пяра. Менавіта яны дапамагалі яму, кажучы ягонымі словамі, "лятаць высока". Нават пра звычайнае, так бы мовіць, "нізкае" (да прыкладу, ураджай бульбы) У. Карызна здольны сказаць нешта сваё, арыгінальнае, нестандартнае — і велічнае. Таму ён і перастварыў стары тэкст беларускага гімна, бо тонка адчувае гармонію зямнога і нябеснага. Суладнасць будзённага і ўзвышанага.**

**З маленства закаханы ў музыку, паэт чуе яе ва ўсім, яна гучыць недзе ў глыбіні ягонага сэрца і праменіцца, выпраменьваючы святло, у ягоных вершах. Заўважце: літаральна любы твор У. Карызны тэарэтычна можна пакласці на музыку. Атрымаецца кантата, араторыя ці што-небудзь накшталт гэтага. Хіба нават і опера магла б выйсці — на беларускія тэмы. Тым не менш у цэлым творчасць У. Карызны ва ўяўленні большасці чытачоў асацыіруецца якраз з камернай музыкай — ціхай, не надта мудрагелістай, але затое душэўнай. І гучыць са старонак паэтычных кніг лірычны голас У. Карызны.**

**Ёсць у зборніку "Хвіліна святла" радкі наватарскія, сустракаюцца вершы, пабудаваныя "лесвічкай" (па прыкладзе У. Маякоўскага, ды і многіх іншых нашых паэтаў). Часам паэт піша амаль "белым" вершам. Усе гэтыя спробы выклікаюць цікавасць, прымушаюць неяк іначай паглядзець на паэта — пэўна, з новага пункту адліку.**

**Шмат у кніжцы твораў "старых", у тым ліку тых, што зрабіліся песнямі. Уключыў паэт у свой зборнік і зусім новае — тое, што напісана ў апошні час. Тут ёсць і санеты, і вершы больш простыя паводле сваёй формы. Паўстае з гэтых радкоў самабытны творца, лірыку якога немагчыма "ўціснуць" ні ў адно з хрэстаматыйных азначэнняў: "народна-песенныя матывы", "эпіка жыцця беларускага грамадства", "глыбінныя вытокі таленту"... Усё пералічанае, канечне ж, прысутнічае ў новай кнізе паэта. З якой яго належыць і павіншаваць — як з чарговым творчым поспехам.**

**С. Я.**



# ПУЦІНЫ Ў ВЕЧНАСЦІ ЖЫЦЦЯ: ПОСТМАДЭРНІСЦКІ ВАРЫЯНТ

Крытычныя артыкулы і нататкі Ганны Кісліцынай — адметная старонка сучаснага літаратурнага працэсу ў Беларусі. Цікавасць да яе творчасці тлумачыцца не толькі тым, што прадметам крытычных разглядаў Г. Кісліцынай у асноўным з'яўляецца так званая беларуская постмадэрнісцкая літаратура, — з'ява, у якой разам з ёю хацелася б разабрацца усім: і звычайнаму чытачу, якому выпадкова трапіла ў рукі нешта з постмадэрну, і *"любой вясковай настаўніцы роднага слова"**, і калегам-крытыкам. Пастаянны інтарэс да літаратурных разважанняў Г. Кісліцынай таксама звязаны з тым, што гэтая самая постмадэрнісцкая літаратура ў якімсьці сэнсе "падвучыла" і яе як крытыка *"клапаціцца не толькі аб займальнасці свайго аповеду, але і аб прыцягальнасці ўласнага вобразу"*. Прызнаемся, што падобны клопат — рэдкая пакуль што птушка нашых крытычных лясоў, але птушка па паходжанні наша, тутэйшая. І гэта прыемна.

Раней — у ідэале — крытык, які займаўся сучаснай літаратурай, павінен быў нешта данесці да чытача (пафас твора, галоўную яго ідэю, думку і г. д.), прычым абапірацца ў сваіх разважаннях ён павінен быў на ленінскую тэорыю адлюстравання. Адначасова ён абавязаны быў прасачыць, каб аўтар не сышоў у бок ад верна абранага шляху, а калі той усё ж такі кудысьці збочваў, то крытык павінен быў сваім важкім крытычным словам вярнуць яго на папярэдне абраны шлях. Праўда, пры гэтым неяк не заўважалася, што па сваіх функцыях такога роду крытычная дзейнасць вельмі ўжо нагадвае ці то насільшчыка на вакзале, ці то швейцара ў гатэлі ("данесці", "не разбіць", "захаваць", "затрымаць.., каб не трапіў..."), — доля незайздросная і тыпова беларуская, што ні кажы.

Таму не варта папракаць крытыка за тое, што ён у асобе Ганны Кісліцынай рашуча адмовіўся не ад уласцівых яму функцый, ад усяго гэтага "маскераду" ў чыгуначным стылі і памкнуўся да ўстанаўлення status quo: каб побач з вобразам аўтара паўстаў вобраз крытыка, які ўмее **"займальна апавядаць"**. Праўда, для гэтага ўласнага жадання мала; вядомая рэч, трэба, каб сама літаратурная сітуацыя таго вымагала, таму спрыяла. І яна спрыяе, бо ўжо даволі працяглы час вектар чытацкага інтарэсу накіраваны не ў бок сучаснай літаратуры, тым больш з традыцыйным ухілам, але ў бок літаратурнай крытыкі, эсэ, зацемак на палях і нават інтэрв'ю (чаму так здарылася — гэта ўжо іншая гаворка). І сітуацыя вымагае, бо дзе яшчэ, як не ў постмадэрнізме, знойдуцца такія адмоўна-прыцягальныя вобразы аўтараў і *"свядомае стварэнне эфекту апавядальнага хаосу"*? Дзе яшчэ, як не ў постмадэрне, можа крытык так станоўча ўздзейнічаць на жыццё, ствараючы ўласны прыцягальны вобраз і здымаючы раздражняльнае для чытача ўздзеянне рознага роду постэфектаў логікай, парадаксальнасцю і займальнасцю крытычнага мыслення? Нарэшце, ці бачылі вы дзе-небудзь у прыстойных месцах жанчын-насільшчыкаў ці жанчын-швейцараў? У нашых крытычных шэрагах іх было колькі заўгодна, прычым ніякага абурэння ці пачуцця няёмкасці з боку ўладальнікаў валізак не было: абураліся не тым, што цяжкую валізку нясе жанчына, але тым, што яна пры гэтым чамусьці пагойдваецца і ўпарта ідзе міма СВ.

І вось, нарэшце, знайшоўся той, хто сказаў: кідай ты тую валізку, хай ён, пісьменнік, якога ўжо *"не адмыеш"*, цягне яе ў вагон сам. І там, у вагоне, акурат па Купале, хай сабе

*Міла ў думках брэдзе,*
*Цешыцца праз сон,*
*Але ці даедзе?*
*Ці даедзе ён?..*

"Ці даедзе ён?" — гэта яго праблемы, даражэнькая, не твае — пагодзімся, што, ад такой постмадэрновай прапановы жанчыне-крытыку адмовіцца цяжка. Тым жа, каму хацелася б, каб сітуацыя на пероне заставалася ранейшаю, варта нагадаць булгакаўскага Шарыка, які яшчэ за савецкім часам абураўся рознага роду заходнімі навацыямі: "Иная машинисточка получает по IX разряду четыре с половиной червонца, ну, правда, любовник ей фильдеперсовые чулочки подарит. Да ведь сколько ей за этот фильдеперс издевательств надо вынести. Ведь он ее не каким-нибудь обыкновенным способом, а подвергнет французской любви. Сволочи эти французы, между нами говоря". Менавіта тым, хто не толькі, як Шарык, можа адрозніць "фильдеперсовые чулочки" ад "фланелевых штанов", але і "сволочей этих французов" ад сваіх уласных (а таксама тым, хто дае нам, жанчынам, *"мажлівасць гаварыць у ложку на роднай мове"*, хто *"не блытае Дэрыда з "Дарыдай"*, хто *"у цяжкую для цябе хвіліну гаворыць "мы" (напрыклад, "мы пераЖЫвем гэты тыдзень")*, хто *"мые рукі пасля прыбіральні..."* А яшчэ тым, хто *"пасля кахання дуе на плечы, разгортваючы нябачныя крылы, твой карункавы ветразь, здольны падняць не толькі над змятай прасцінай, але і над пакамечаным жыццём")*, — усім ім і прысвячаецца зборнік Ганны Кісліцынай "Blond attack" ("Мн., "Логвінаў", 2003).

Галоўная асаблівасць гэтага зборніка бачыцца ў тым, што калі кожны з прачытаных калісьці артыкулаў ці рэцэнзій паасобку выклікаў, як памятаецца, станоўчы водгук, то сабраныя разам, яны абуджаюць *"эмоцыі вельмі супярэчлівыя, пра якія цікава паразважаць"*.

У чым тут прычына? Мабыць, справа ў абраных Г. Кісліцынай аўтарах (гл. Аркуш, Бахарэвіч, Глобус, Гуменюк і далей па алфавіце)? Але для тых, каму не спадабаецца гэты шэраг, ёсць іншы (Брыль, Галубовіч, Дранько-Майсюк). І нават "сусветнікам" ёсць пра што пачытаць (артыкулы пра Рыльке і Г. Мілера (не блытаць з А. Мілерам!). Як на мой погляд, дык творчы партрэт Генры Мілера пад назваю "У поцемках, з ліхтаром" — увогуле адзін з самых удалых у зборніку "Blond attack". Дык адкуль тады бярэцца гэтая супярэчлівасць?

Справа, хутчэй за ўсё, не ў аўтарах, бо цікавы ў данным выпадку не столькі сам постмадэрнізм па-беларуску, колькі яго адзнака Ганнай Кісліцынай; яна куды цікавейшая для мяне за яго самога і спрэчная — адначасова. Кожны з *"новай хвалі"*, лічыць аўтарка, *"выдатны ўжо сваёй недасканаласцю, незавершанасцю"*. Гэта значыць, што *"недасканаласць, незавершанасць"* — галоўныя крытэрыі *"выдатнасці"*. Але тады і сама крытыка, каб быць выдатнай, не можа не быць таксама недасканалай і незавершанай. Аднак сцвярджэнне пра абсалютную большасць літаратурных партрэтаў ці рэцэнзій Г. Кісліцыйнай як пра штосьці недасканалае ці незавершанае падаецца абсурдам, асабліва ў параўнанні са штотыднёвай прадукцыяй некаторых нашых пладавітых крытыкаў. У такім выпадку застаецца думаць, што, мабыць, крытык укладвае ў гэтыя словы нейкі дадатковы сэнс? Або аўтарскае разуменне іх разыходзіцца са звычайным, агульнапрынятым, і разыходзіцца цалкам? Толькі Г. Кісліцына нідзе тое не агаворвае. Тады застаецца вось што: паглядзець на агульны кантэкст зборніка "Blond attack", бо менавіта там могуць "хавацца" так званыя кантэкставыя сінонімы, з дапамогай якіх можна будзе паспрабаваць зразумець гэтае своеасаблівае крытычнае "ноў-хаў" Ганны Кісліцынай.

Чаго, на думку постмадэрністаў, не стае беларускай літаратурнай традыцыі і яе паслядоўнікам у наш час? — *"...вітальнасці, жыццёвасці, сапраўднага рэалізму"*. А чаго не стае апошнім на думку крытыка? — *"Верабей — парыскі ці полацкі — дэманструе вітальнасць, жыццяздольнасць, якой, безумоўна, не хапае беларускай літаратуры"*. У іншым месцы таксама чытаем: *"Не тое, каб ім (простым хлопцам, што паселі на выдадзеных ім дзяржавай пісьменніцкіх метрах, каб апісваць месмачковыя жарсці"*. — **Т. А.**) *не хапала вопыту — ім бракуе цікаўнасці да жыцця"*. Такім чынам, у кантэксце крытычнай творчасці Г. Кісліцынай незавершанасць, недасканаласць — гэта сінонімы вітальнасці, жыццяздольнасці, цікаўнасці да жыцця з боку творцаў літаратуры, якую яны адпаведна даносяць у сваіх творах да чытача. Выдатны твор — гэта і ёсць твор, які прагалошвае ўсе гэтыя рэчы, твор, у якога вітальнасць з'яўляецца галоўным пафасам. Але ў такім выпадку справядліва і адваротнае: калі твор завершаны і дасканалы — значыць, у ім адсутнічае вітальнасць, значыць, ён не абуджае ў чытачу цікаўнасці да жыцця і г. д. Адно слова, ён — не жывы, і адпаведна літаратура, поўныя гэтымі творамі, — мёртвая. У гэтым пункце і аўтарка, і постмадэрністы згодныя паміж сабой: перад намі — *"мёртвае цела літаратуры"*, у якое постмадэрнізм спрабуе ўдыхнуць жыццё. Але якім чынам ён гэта робіць? Вядомы спосаб ўратаваць тапельца — рот у рот *("не люблю антыэстэтычных вобразаў, але гэтак бачу")*. А што робяць постмадэрністы? Адмаўляюць практычна ўсё напрацаванае папярэднікамі ў літаратуры, у чым Г. Кісліцына рашуча з імі не згодная: *"Пакуль не пачнем мы, беларусы, ахоўваць памяць пра сваіх папярэднікаў, пакуль не перастанем рушыць няхай і недасканалы, але наш нацыянальны творчы пантэон, пакуль не возьмемся развіваць, а не ствараць наноў культуру, — нічым мы не лепшыя за першабытных людажэраў"*. У такім выпадку у адпаведнасці з аўтарскай устаноўкай чуткі пра смерць беларускай літаратуры "крыху перабольшаныя", бо недасканаласць творчага пантэону — яркі паказчык таго, што яно жывое, цела нашай літаратуры, не мёртвае. Дык што рабіць, навошта ратаваць, калі тапелец наш, мякка кажучы, як бы і не зусім мёртвы, згодна з дыягностыкай Г. Кісліцынай. А калі ён мёртвы, дык навошта папракаць у людажэрстве тых, хто адмаўляецца мець якія-небудзь справы з мерцвяком, бо не хоча, каб яго абвінавацілі ў некрафіліі. Гэтыя пытанні, на жаль, застаюцца і пасля чытання зборніка "Blond attack" без адказу. І ўвогуле можна паспачуваць аўтарцы, бо сапраўды адказаць на гэтыя пытанні было даволі цяжка, паколькі крытэрыі ў ацэнцы літаратурнай творчасці імпартаваныя ёю з пазалітаратурнай айкумены.

**Таццяна АНДРЭЙЧАНКА**

Асабіста мне падаецца, што ў гэтым моманце са старонак зборніка вельмі ўжо патыхае свайго роду біялагізацыяй крытычнага мыслення а la Леў Гумілёў і нават дзіўнавата, што паміж вітальнасцю і цікаўнасцю да жыцця няма знакамітай гумілёўскай пасіянарнасці.

Гэтая па-свойму выдатная супярэчнасць заканамерна цягне за сабою цэлы ланцуг іншых супярэчнасцяў у крытычнай думцы Г. Кісліцынай. Да прыкладу, шанцы літаратуры ў наш час ацэньваюцца ёю вельмі высока: *"Літаратура ўжо даўно даказала, што жыве па ўласных законах, больш за тое, яе законы распаўсюджваюцца на жыццё"*. Узнікае пытанне: калі літаратура — самадастатковая з'ява, навошта пазычаць крытэрыі ў ацэнцы творчасці таго ці іншага пісьменніка "з жыцця", ігнаруючы "*яе* (г. зн. літаратуры. — **Т. А.**) *уласныя законы*"? Гэта папершае. Па-другое, ці распаўсюджваюцца на жыццё законы мадэрнізму з прыстаўкай пост? Па-трэцяе, калі жыццё наша такое "змрочнае", то якой з літаратурных плыняў болей за іншых мы павінны за тое дзякаваць?.. З гэтай нагоды крытык падкрэслівае нашу агульную крытычную рысу: *"Мы задаем пытанні, але баімся пачуць адказы — хвароба атэістычнага стагоддзя..."* Якім гэта чынам нашы пытанні звязаныя з атэістычным XX стагоддзем, у якім нарадзіўся беларускі постмадэрнізм, — паспрабуем з дапамогай Г. Кісліцынай гэта зразумець ужо ў новым стагоддзі.

Сусветна вядомы пісьменнік Ф. М. Дастаеўскі памёр у 1881 годзе. Неаднойчы падымаў ён свой голас у абарону пакрыўджаных і прыгнечаных, адмаўляючы ўсеагульную гармонію і шчасце, калі ў падмурку ягоным ляжыць хаця б адна дзіцячая слязінка. Менш вядома, што гэты пісьменнік быў гарачым прыхільнікам праваслаўя, самадзяржаўя ды народнасці. І вось удзячнае пецярбургскае студэнцтва вырашыла арганізаваць на ўсю ноч, пакуль труна з целам нябожчыка будзе стаяць у царкве, ганаровую варту каля гэтай самай труны. Удава пісьменніка, А. Р. Дастаеўская, наведала тую царкву і прыйшла адтуль дадому амаль непрытомная ад убачанага: удзячныя пецярбургскія студэнты, стоячы каля труны, курылі ў рукаво, курылі ў царкве! Праўда, тое было ноччу і час ад часу яны выходзілі на паветра, але выходзілі збольшага зусім не дзеля таго, каб перакурыць; проста ім хацелася перамовіцца і падыхаць свежым паветрам. А потым — зноў у царкву, перакурыць, бо занадта ж доўга, на думку студэнтаў, трэ было стаяць без курава у той ганаровай варце. І адбывалася гэта ўсё ў XIX стагоддзі, якое ніхто з беларускіх крытыкаў, здаецца, у атэізме не абвінавачваў. Парадокс, аднак, заключаецца ў тым, што на працягу ўсяго наступнага *"атэістычнага"* XX стагоддзя ніводны ленінградскі і потым зноўку пецярбургскі студэнт ніколі не курыў у царкве! (Цікаўныя могуць звярнуцца, напрыклад, да мемуараў карэннага пецярбуржца, вядомага пісьменніка Л. Панцялеева). Іншымі словамі, азначэнне "атэістычнае" ў дачыненні да мінулага стагоддзя, ужытае Г. Кісліцынай, падаецца даволі павярхоўным, бо, як сведчыць Дас-

*тут і далей па тэксце курсівам падаюцца цытаты са сборніку Г. Кісліцынай "Blond attack".

таеўская, XIX стагоддзе было ў гэтым сэнсе не лепшым, а мабыць што і горшым, паколькі было збольшага ханжаскім. Праўда, аб'ектыўная некарэктнасць крытыка можа супадаць з суб'ектыўным успрыняццем мінулага стагоддзя самімі беларускімі постмадэрністамі, а можа і не супадаць. І гэта вельмі істотны момант у генеалогіі беларускага постмадэрну, які ўсё ж такі трэба ўдакладніць: менавіта ад яго цягнуцца ніці да іншых тэарэтычных разважанняў Ганны Кісліцынай.

Канечне, знойдуцца людзі, якія скажуць: ну што там нейкая "машинисточка", трэба звярнуцца да іншых, больш аўтарытэтных сведкаў. І такіх сведкаў, асабліва ў XX стагоддзі, можна знайсці болей чым дастаткова; у гэтым сэнсе амаль бездакорным падаецца імя. Г. Г. Маркеса. У сваім знакамітым нарысе-рэпартажы "СССР: 22400000 квадратных кіламетраў без адзінай рэкламы кока-колы" (1957) удзельнік І Сусветнага фестывалю моладзі і студэнтаў, малады тады журналіст-калумбіец пісаў літаральна наступнае: "Возможно, самой большой ошибкой Сталина было его желание во все соваться самому, вплоть до самых потаенных уголков личной жизни. Полагаю, с этим связана атмосфера мелочного деревенского ханжества, которая пронизывает все в Советском Союзе. Свободная любовь, рожденная из революционных крайностей, — легенда прошлого. Если взглянуть объективно, никакая иная мораль не напоминает так христианскую, как советская". Іншымі словамі, у СССР проста ішла *гульня ў атэізм*.

І вось калі ў канцы мінулага стагоддзя сітуацыя памянялася і гістарычны маятнік зноўку хіснуўся на нашых абшарах, з пункту гледжання постмадэрністаў, у бок *гульні ў хрысціянства*, а значыць, у бок рэлігійнага ханжаства, выглядае натуральна, што яны сканцэнтравалі ўсю моц свайго ўдару на гэтым напрамку. Нагадаем у сувязі з гэтым творчасць Адама Глобуса, якога *"нездарма лічаць лепшай праявай постмадэрнізму з беларускім тварам"*, а ў якасці прыкладу прывядзем той самы рэпрэзентатыўны ўрывак з аповесці "Млосці", які прыводзіць і Г. Кісліцына ў сваёй рэцэнзіі на глобусаўскі зборнік, перадрукаванай у "Blond attack": *"Я не сплю. Я позна кладуся, я позна ўстаю, бо не люблю начны Мінск, пусты і чысты, вымецены і падмецены. Самае вялікае смецце ў горадзе нясе з сабою пасажыраплынь у час пік. А ўночы яны спяць, яны паслухмяныя, іх навучылі з'ядаць варанае сала... А мяне навучылі стаяць у прыбіральні і не гідзіцца... Мяне навучылі любіць ноч. А гаварыць тое, што я думаю, я навучыўся сам... а можна гаварыць пра непатрэбшчыну і будзе цікава слухаць" (с. 569). Гэтыя навязлівыя, амаль фальклорныя паўторы ў сказах настолькі "закалыхваюць" чытача, што наступны абзац, дзе аўтар распавядае, чаму кафедральны касцёл, упрыгожаны бел-чырвона-белымі сцягамі і харугвамі з Ісусам і Божай Маці, выклікае пачуццё гідкасці (у ім ён пабачыў, як з рота аднакласніка вылазіць даўжэзны гліст), успрымаецца проста накаўтам"*.

Успрымаецца кім? Чытачом? Тады што гэта за феномен такі, наш чытач, які ад падобных тэкстаў атрымлівае накаўт? І што сабою ўяўляе глобусаўскі апавядальнік, які так моцна "б'е"? Неяк так пайшло ўжо ад старажытнасці, што чытач мастацкай літаратуры можа атрымаць ад твора (у залежнасці ад яго якасці) ці то задавальненне, ці то асалоду, ці — ад вяршыняў літаратуры — нават катарсіс. Дык навошта Г. Кісліцынай спатрэбіўся спартовы баксёрскі тэрмін, — мабыць, як антонім катарсісу, паколькі ўздзеянне глобусаўскага тэксту на чытача зусім не прасвятляючае, а хутчэй наадварот?

Апавядальнік сапраўды б'е па вобразе, па твары, паколькі ў ім дасюль яшчэ час ад часу відаць яго Першавобраз, а ў яго дзеяннях і рэакцыях раз-пораз заўважаецца "бессознательная религиозность" (Вал. Курбатаў. "Об упадке — с надеждой", 1991). Як на маю думку, дык гэтая "бессознательная религиозность" тонкай ніццю ўплецена ў тканку лепшых беларускіх твораў эпохі "головного атеизма" (Р. Гальцава), "что еще дороже, и действеннее" (той жа Курбатаў).

*Дарогі*
*Светлыя дарогі...*
*Пуціны ў вечнасці жыцця.*
*Вы шчасця зычыце так многа,*
*Хто выйшаў з песнямі ў прасцяг.*
*Хто зможа ліраю сумлення*
*Распяць свой голас на крыжы...*

"Распяць свой голас на крыжы", — як пісаў у 1927 Паўлюк Трус у паэме "Лірнік, і — адправіць чытача ў накаўт — кантраст відавочны і амаль неверагодны, але ён перад намі.

Вось і атрымоўваецца, што, у поўнай адпаведнасці з Г. Г. Маркесам, рэальнай мішэнню глобусаўскага апавядальніка аказаўся зусім не рэлігійны ханжа (таго чымсьці праняць даволі складана), але яго постмадэрновае alter ego — хрысціянін; не ханжанства, а хрысціянства. Дакладней кажучы, у беларускім варыянце мішэнню стаў "бессознательный христианин", беларускі чытач. Яшчэ дакладней — той "падупаўшы Рым" (П. Верлен) сучаснасці, г. зн. хрысціянства, якое на беларускіх абшарах дачакалася такі "Злома дзвюх эпох злавесных" (У. Жылка) і вырашыла выйсці з катакомбаў "бессознания", крыху прыпадняцца. І тут жа апынулася ў накаўце.

Канечне, калі б наш чытач быў крыху болей дасведчаны і ў сусветнай, і ў роднай класічнай літаратуры, то, мабыць, ён і атрымаў бы ўдар, але не накаўт. Скажам шчыра — калі б Ганна Кісліцына пры разглядзе постмадэрнісцкай творчасці пашырыла яе кантэкст (пэўная вузкаватасць кантэксту — гэта адзін з тых сур'ёзных папрокаў, якія хацелася б адрасаваць Г. Кісліцынай, нягледзячы на Факема і К°), то чытач бы адразу даведаўся, што сутыкненне высокага і нізкага, сакральнага і прафаннага, — гэта зусім не навацыя беларускага постмадэрну і постмадэрну ўвогуле, а даволі пашыраная з'ява ў сусветнай літаратуры.

"А пры цудах тых, бачных і духу, і воку, // Свет звыродлівы, поўны брыды і агіды," Здохлы кот, што знікае ў смярдзючым рыштоку, // І галеча, што б'е ў катуху сваім гніды"... (Л. Стаф).

Аднак ні Леапольд Стаф, ні наш Купала тым не менш так і не здолелі адправіць свайго чытача ў накаут.

*Няпраўда праўду акялзала*
*І едзе людзкасці на спіне,*
*А чалавек — ком гною, сала —*
*Быдлём, сляпнём, жыве і гіне.*

Як бачым, купалаўская і глобусаўская канцэпцыі чалавека не толькі не разыходзяцца паміж сабою, наадварот, яны страшэнна блізкія адна адной: калі чалавек, паводле Купалы, — "ком гною, сала", дык той факт, што з яго рота выпаўзае гліст, — толькі ўдакладняльная дробязь, і нічога больш... Праўда, з тэрміналогіяй выходзіць неякая блытаніна, бо калі Глобус — постмадэрніст, дык Купала — чысты ўжо мадэрніст, і не менш; калі Купала — натураліст, тады і Глобус ніякі там не постмадэрніст, а звычайны постнатураліст, ці натураліст проста. У любым выпадку бясспрэчна, што менавіта Купала першым у беларускай літаратуры ў вершы "Разлад" (1907) прагаласіў асноўны прынцып постмадэрнізму — *"прынцып усеагульнай раўнавартасці ўсіх з'яў і ўсіх бакоў жыцця"*:

*"Дабро і зло ў аднолькай мерцы..."*

На жаль, імя Янкі Купалы не ўпамінаецца Г. Кісліцынай на старонках зборніка ""Blond attack" ніводнага разу, што значна ўскладняе, на мой погляд, разуменне постмадэрнізму з боку тых самых вясковых настаўніц, пра якіх мы ўсе так клапоцімся і для якіх імя Янкі Купалы — не просты для сэрца гук. Можна з упэўненасцю сказаць, што падобнага роду блізкасць, асабліва на першы погляд, — рэч для Купалы як бы не зусім пажаданая. Але што ёсць, тое ёсць, і нельга не пагадзіцца з думкай Г. Кісліцынай наконт таго, што *"Беларускі постмадэрнізм пакуль неаддзельны ад рэалізму"*. Як бачым, сапраўды гэта так, але істотная розніца паміж імі ўсё ж такі існуе, хаця *ён* (постмадэрнізм. — **Т. А.**) *вырашае тыя ж праблемы"*. Справа менавіта ў гэтым: як кожны з іх вырашае адны і тыя ж праблемы. Каб пра тое даведацца, трэба дачытаць купалаўскі верш да канца:

*Адзін чорт весел, зубы скаліць,*
*Загаціў пекла да варотаў;*
*Рад шэльма: польку з ведзьмай валіць...*
*Такі разлад — я г о р а б о т а !**

А што гаворыць нам глобусаўскі апавядальнік?

Як вопытны драматург-класіцыст, ён збірае ўсіх разам у адным месцы і ў адзін час: Хрыста на харугвах, Маці Божую (там жа) і чалавека з глістом, якога дзеля такога выпадку пазычае з уласнай падсвядомасці. Збірае і быццам бы гавора чытачу: ты думаеш, што Ён сатварыў чалавека? — Паглядзі ж, на што Ён здольны. Не падабаецца? А яшчэ гаворыш, што сатварыў Ён яго, такога — паводле Уласнага вобразу і падабенства? Дык паглядзі ж на гэтага — і ўяві Таго... Ну, што? І таму не здзіўляйся навакольнай рэчаіснасці, яе "змрочнасці", ты ж сам услед за Купалам крычаў:

Божа! Гэткі тут свет
Моц стварыла Твая!

Значыцца, разлад — Я г о р а б о т а, і Купала твой памыляецца, і ты, Сымонка-чытач, таксама.

Памятаецца, калісьці Алесь Разанаў заўважыў, што ў горадзе, дзе валадарыць Рагвалод,

*На заінелым трамвайным акне*
*хтось напісаў:*
*"Я кахаю".*
*Усе пазіраюць на свет*
*праз гэтыя словы.*

Глобусаўскі апавядальнік імкнецца менавіта да гэтага: каб усе пазіралі на свет — "з м р о ч н ы" свет — праз гэтыя словы: "Я г о р а б о т а". Не, ён не піша іх на "заінелым трамвайным акне", ён, як сапраўдны постмадэрніст, увогуле нідзе гэтага не піша. Ён імкнецца напісаць іх, упісаць іх у падсвядомасць таго самага "бессознательного христианина", якім з'яўляецца яго чытач. Вось у чым, як на мой погляд, сэнс той "правакацыі", якую ўчыняе апавядальнік у гэтай аповесці Адама Глобуса.

Як прафесійны мантажор, апавядальнік папярэдне добра разлічвае паслядоўнасць "кадраў": спачатку харугвы, а потым — гліст, у выніку чаго на значэнне прэтэндуе менавіта іх злучэнне, а не значэнне гэтых "кадраў" саміх па сабе. Каб упэўніцца ў тым, што гэты прынцып другаснасці — асноўны рабочы прынцып апавядальніка, дастаткова памяняць месцамі гэтыя абзацы. І тады атрымаецца, што накаўту няма: так, раней у нашых касцёлах і цэрквах і не тое яшчэ можна было сустрэць, а зараз "няма таго, што раньш было", і ўсё тут. Болей за тое, калі адняць у апавядальніка тую традыцыю, з якой ён кпіць, то ён застанецца сам-насам са сваім глістом, анічога з сябе пры гэтым для чытача не ўяўляючы. А гэта яшчэ раз пацвярджае, што тая выснова, якую ён спрабуе навязаць чытачу, — падманка, пазбаўленая ўсялякіх анталагічных каранёў.

Добра; тады што такое — лад, калі ў думках апавядальніка такі разлад? "Я же обычен и добропорядочен в самом прямом смысле этого слова: я подчинился обычаю, принял добрый порядок, верю в Творца, как велит здравый смысл, благодарен Ему за этот мир, ценю прекрасные дары — рыцарство и брак, разделяю другие традиции и взгляды моих предков. Многим непонятно, с какой стати я, подумать только, предпочитаю свадьбы разводам, а детей — абортам. Искусство, на мой первобытный взгляд, существует для вещей славы Божией» (Г. К. Чэстэртан. «Пісьменнік у газеце"). Калі ж яно, мастацтва, у тым ліку мастацтва слова, існуе для нечага іншага (напрыклад, дзеля таго, каб сваю маленькую прыватную ісціну выдаваць за Ісціну), то узнікае пытанне: мабыць, перад намі зусім не мастацтва, а нешта іншае?

Прызнаюся, што нялёгка пісаць пра рэчы, пра якія лепей памаўчаць, таму што словы нашы не заўсёды могуць выказаць ісціну ці, прынамсі, акрэсліць яе межы больш-менш дакладна. У такіх выпадках Андэрсен раіў наступнае: "Кожную рэч трэба называць яе ўласным імем, і калі гэта небяспечна ў звычайным жыцці, то гэта трэба зрабіць хаця б ў казцы". Хацелася б выкарыстаць андэрсенаўскую параду і ўспомніць яго вядомую казку "Снежная каралева". Пачатак гэтай казкі заўсёды прэпараваўся савецкай цэнзурай у шматлікіх дзіцячых выданнях, таму што цэнзары добра ведалі пра тое, што дарослы наўрад ці загляне ў поўны аўтарскі тэкст: "...Жил-был тролль, злой-презлой — сущий дьявол! Как-то раз он был в особенно хорошем настроении, потому что смастерил зеркало, отражаясь в котором, все доброе и прекрасное почти исчезало, а все плохое и безобразное, напротив, бросалось в глаза и выглядело еще отвратительней. Красивейшие виды, отразившись в нем, казались вареным шпинатом, а лучшие из людей — уродами; или же чудилось, будто люди эти стоят вверх ногами, и живота у них вовсе нет! Лица в этом зеркале искажались до того, что их нельзя было узнать, а если у кого на лице сидела веснушка, она расплывалась во весь нос или щеку. Тролля все это очень потешало. Когда человеку приходила в голову добрая, благостная мысль, зеркало тотчас строило рожу, а тролль не мог удержаться от хохота, так он радовался своей забавной выдумке. Ученики тролля, — а у него была своя школа, — рассказывали о зеркале, как о каком-то чуде.

— Только теперь, — говорили они, — можно видеть людей, да и весь мир такими, какие они на самом деле!

И вот они принялись носиться по свету с этим зеркалом; и скоро не осталось ни страны, ни человека, которых оно не отразило бы в искаженном виде. Напоследок ученикам тролля захотелось добраться и до неба, чтобы посмеяться над ангелами и Господом Богом. И чем выше они поднимались, тем больше кривлялось и корчилось зеркало, строя рожи, — трудно было в руках его удерживать. Все выше и выше, все ближе к Богу и ангелам летели ученики тролля, но вдруг зеркало так перекосилось и задрожало, что вырвалось у них из рук, полетело на землю и разбилось вдребезги".

Складваецца ўражанне, што постмадэрнізм і ўзнік з гэтай прапановы: уявім сабе, што люстэрка не разбілася, і вучні троля даляцелі-такі да Пана Бога і паднеслі Яму гэтае самае скажонае люстэрка. Так, усе мы ведаем, што ў сапраўднасці яно вырвалася з тролевых рук і ўпала на зямлю, ушчэнт разбіўшыся. Але ж мы проста пагуляем і будзе гульня наша называцца, ну, напрыклад, "Шлях да Бога". Умовы вядомыя: трэба ўзяцца як мага крапчэй за скажонае (пра гэта забудземся таксама) люстэрка і — у палёт, да зор! Вы толькі разам з намі вазьміцеся за яго...

Сапраўднае мастацтва тым і адрозніваецца ад псеўда-мастацтва, што яно ведае пра мяжу і ніколі не пераходзіць праз яе; яно можа нават палётаць з тролевымі вучнямі над зямлёю, але яно ніколі не будзе падманваць і гаварыць, што са скажоным люстэркам яно такі даляцела да сваёй мэты. У якасці падтрымкі прывяду адну цытату з прамовы Тувэ Янсан, сусветна вядомай фінскай шведскамоўнай пісьменніцы, аўтаркі знакамітых Мумі-троляў, прамовы, сказанай ёю падчас уручэння Міжнароднага залатога медаля імя Ганса Крысціяна Андэрсена: "...пісьменнік, у рэшце рэшт, не болей як чалавек, які ўцёк са свайго ўласнага свету і ўварваўся ў чужы. Ён усведамляе гэта і абмяжоўвае сябе". Калі такога самаабмяжоўвання няма, нельга і гаварыць пра паўнавартасны мастацкі твор. (Ну, яшчэ ўспомнілася: "Эстэтычная культура ёсць культура межаў... унутраных і знешніх, чалавека і яго свету" (М. М. Бахцін). Хто ж дапамагае пісьменніку ў вызначэнні мяжы? Адказ просты: голас хрысціянскага сумлення, і кожны пісьменнік мае магчымасць да яго прыслухацца. Ці не прыслухацца.

Як на мой погляд, дык менавіта недахоп эстэтычнай культуры ў беларускім постмадэрне ўвесь час вымушае Ганну Кісліцыну на старонках зборніка "Blond attack" зніжаць крытэрыі мастацкасці для сваіх аўтараў. Пра незавершанасць і недасканаласць я ўжо гаварыла, аднак, як на маю думку, дык пры ўвядзенні падобных крытэрыяў аўтарцы-крытыку варта было б нагадаць постмадэрнісцкім аўтарам пра тое, што тым самым крытык парушае асноўны закон мастацкасці, ці, дакладней, ігнаруе яго; размова ідзе, безумоўна, пра закон цэласнасці — а ён "предполагает внутреннюю завершенность (полноту и сосредоточенность (неизбыточность) художественного целого (Тюпа В. "Художественность" 1999). Яна сама прызначаецца, што не можа ацэньваць постмадэрнісцкія творы *"па канчатковым выніку,* спасылаючыся пры гэтым на *"ўбогасць" нашага жыцця"*, якая *"вымушае ўлічваць не толькі мастацкасць слова, але і мастацкасць душы, прагу ператварэння"*. Падобныя спасылкі вядуць, па-мойму, проста да напаўзабытага ўжо вульгарнага сацыялагізму, які, не будзь упомнены, любіў-такі паразважаць пра тое, як "среда заела", зводзячы ўсё да сучаснай канфігурацыі грамадскіх адносінаў. Калі ж улічваць прагу ператварэння, то лепей за постмадэрнісцкіх аўтараў ніхто пра гэта не скажа, ў каго ці ў што ім хацелася б "ператварыцца", да прыкладу, той жа апавядальнік у глобусаўскім "Аўтапартрэце з разбітым носам" выказвае спадзяванне, што *"апынуўшыся на тым свеце, ён зможа працаваць у пекле, дапамагаючы чарцям караць грэшнікаў"*. Ну што ж, кожнаму — сваё, толькі вось пытанне: як называецца тады гэты чалавек, у якога ператварыўся апавядальнік (а Ганна Кісліцына якраз і прапануе ўсім, каго гэта цікавіць, заняцца *"стварэннем новага паняційнага апарату" для постмадэрнізму)*. Тут неабходна ўспомніць пра Асвенцім і заўвагу аўтаркі наконт таго, што *"вядомая тэза аб немагчымасці літаратуры пасля Асвенціму вельмі актуальная для заходняй постмадэрнісцкай крытыкі"*. Думаецца, што яна не меней актуальная і для нашай крытыкі таксама па вядомых гістарычных і літаратурных прычынах. Чытач, больш-менш дасведчаны ў гэтай тэматыцы, сказаў бы, што, як "на мой першабытны погляд" (Чэстэртан), той чалавек, які дапамагаў чарцям караць грэшнікаў, у Аўшвітцы называўся ***капа***, а тыя, хто атрымоўваюць накаўты, — ***дахадзягамі***. Астатнія "вакансіі" можа дапоўніць той, для каго польская літаратура пра Асвенцім — рэч добра знаёмая. Увогуле хацелася б заценіць паважанай аўтарцы, што гэтую тэматыку лепей зусім не кранаць, чым кранаць, пачынаючы сказ са слова "Дарэчы...". З маральнага боку тут няяснасцяў, думаецца, няма, а вось з пункту гледжання крытычнага артыкула ці рэцэнзіі як цэласнай з'явы "Асвенцім", між іншым, азначае некаторую "нязладжанасць" формы адносна зместу артыкула як эстэтычнага аб'екта... І паколькі я сама ўжываю гэтае слова, то ў якасці апраўдання хочацца сказаць, што калі Г. Кісліцына ўжывае гэтае слова ў артыкула пра творчасць таго ж Адама Глобуса, то ***капа*** — гэта не больш, чым спроба разгортвання гэтага паняцця ў рэцэнзіі на артыкул пра творчасць гэтага ж пісьменніка.

Калі прыгледзішся да фота аўтаркі, змешчанага на вокладцы зборніка "Blond attack", то нельга не заўважыць, што нягледзячы на карнавальны гарнітурчык, вясёленькага ружовага колеру, вочы ў Ганны Кісліцынай сумныя. І гэта невыпадкова: постмадэрнізм, на яе думку, — напрамак *"бесперспектыўны"*. З аднаго боку, гэтак і ёсць. Мастацкасць як мяжа, якая "не можа быць адсунутая" (І. Кант), на жаль, для беларускага постмадэрнізму у выглядзе "Млосцяў" — пакуль што мэта недасягальная. Так, ёсць супрацьханжанскі пафас, але на ім, як на любым адмаўленні, далёка не ад'едзеш, нават разам з крытыкам такога ўзроўню, як Ганна Кісліцына.

*Скача па сцежцы*
*перад дзіцянём*
*нязграбны вялізны грак:*
*не хочацца лётаць?*

Граку разанаўскаму, мабыць што і не. А беларускаму постмадэрнізму лётаць хочацца, і яшчэ як. Толькі вось незадача: адлятаючы, ён вырашыў чамусьці ўзяць з сабой у палёт скажонае люстэрка, якое да таго ж даўным-даўно пабілася на малюсенькія аскепкі. Таму хочацца яму параіць тое самае, што калісьці ён параіў Ганне Кісліцынай: кідай ты тое люстэрка і лётай сам. А на зямлі цябе заўсёды будзе чакаць blond Lady беларускай крытыкі — Ганна Кісліцына.

# НАД ВЕРАСАМІ ПАМЯЦІ

Апошнім часам народны пісьменнік Беларусі Іван Навуменка ў сваёй творчасці ўсё часцей вяртаецца ў гады маленства і юнацтва. Не стала выключэннем і новая кніга аўтара "Гуканне над верасамі", што і складаецца з трох аповесцяў і трынаццаці апавяданняў. У адным з іх, назва якога вынесена на вокладку, як бы абагульнена гучаць тыя згадкі, што не адпускаюць пісьменніка ад сябе, а з гадамі набываюць яшчэ большую сваю акрэсленасць, так і напаўняюцца значнейшым, чым дагэтуль, крытычным стаўленнем да таго, што было раней. А каб даваць ацэнку іншым, каб павучаць іх ці асуджаць, трэба спярша лепей разабрацца ў самім сабе, што і робіць герой гэтага твора Пятро Грачанік, у паводзінах якога ў чымсьці ўгадваецца і сам І. Навуменка. Але падобным чынам ставіцца да апавядання, значыць, няхай і неўсвядомлена, звужаць разуменне аўтарскай задумы, зводзячы яе да раскрыцця лёсу толькі канкрэтнага чалавека. У сапраўднасці ўсё куды шырэй і больш складаней.

Пятро Грачанік — сын свайго часу, адзін з тых нямногіх, каму пашчасціла выжыць у ваенные ліхалецце. Пакаленне ж гэтае, як бы да яго ні ставіліся тыя, хто спрабуе перакрэсліць савецкае мінулае, на сваіх плячах вынесла цяжар страшнай вайны, а перад гэтым было, няхай і няшчымнае, але надзіва рамантычнае маленства і юнацтва, а пасля гэтага — рэчаіснасць, калі, выжыўшы, хацелася цвяроза разабрацца ў жыцці, але гэта ўдавалася не так проста. І не толькі таму, што рамантычнае, а значыць светлае ўспрыманне жыцця, нягледзячы на тое, што так шмат было перажыта, па-ранейшаму заставалася, а афіцыйная ідэалогія імкнулася (і гэта ёй удавалася) паказаць усё з лепшага боку.

Аднак у невялікім, але разам з тым вельмі змястоўным сваёй унутранай напоўненасцю апавяданні "Гуканне над верасамі", на першы план выходзіць асабістыя лёс галоўнага героя, а ў многім і пакалення, да якога ён належыць: маленства, юнацтва, сталасць і — нікуды ад гэтага не схаваешся — старасць. І. Навуменка нешматслоўны, пазбягае ўскладнёнай вобразнай насычанасці, але пры гэтым паспявае сказаць вельмі шмат. А прычына ў тым, што ўсё напісана рукой вопытнага празаіка, а яшчэ — уменнем будаваць дасканалы сюжэтны каркас дае вялікія мажлівасці аўтару закрануць матывы, якія не страчваюць свайго агульначалавечага напаўнення.

Элегічнасць настрою, з якім Пятро Грачанік узіраецца ў сваё мінулае, надае твору яшчэ большую непаўторнасць. Гучыць самотлівая, але і не пазбаўленая светласці, песня жыццю. Вялікаму, няпростаму, ды па-свойму прыгожаму. І заўчасная разлука Грачаніка з той, якая стала яго другой жонкай, толькі цяпер усведамляецца як страта важнага апірышча. Забываюцца колішнія непаразуменні, а застаецца каханне, водгалас якога — тое "гуканне над верасамі", што звязана з вандроўкамі па грыбы. Саша, жонка Грачаніка", адбягалася далёка, так што часам ён не мог яе дагукацца", а таму, калі сыходзіліся разам, папракалі адзін аднаго і лаяліся. Цяпер колішняе гуканне над верасамі, успрымаецца, як гуканне над верасамі памяці.

Вяртаецца ў сваё мінулае і галоўны герой аповесці "Вір", навуковец і пісьменнік Несцяровіч. Таксама нямала пражыта і гэткі ж няпросты ў яго лёс, як і ў Грачаніка. І гэткае ж моцнае жаданне разабрацца ў самім сабе, высветліць, дзе жыў сумленна, а дзе, магчыма, у чымсьці хібіў. І пасаваў перад цяжкасцямі. Аповесць "Вір", як і дзве наступныя — "Дзесяты клас" і "Помні Сталінград", прывабліваюць той непадробнай праўдай жыцця, што з'яўляецца вынікам прагавітай споведзі чалавека з жаданнем не толькі асэнсаваць, а ў многім і пераасэнсаваць уласнае ўспрыманне і свайго жыцця, і жыцця тых людзей, якія былі з ім ці ёсць побач.

Праўда, робіцца гэта на розным матэрыяле. Калі ў "Віры" больш шырокі ахоп падзей, што адбываюцца на вялікім часавым прамежку, дык у аповесцях "Дзесяты клас" і "Помні Сталінград", як і відаць з назваў, канкрэтная прывязанасць да месца і часу дзеяння.

Іншыя творы, што ўвайшлі ў кнігу, напрыклад, апавяданні "Падарожжа ў Бабінавічы", "Цыганскі барон", "Грыбное шчасце" — тое ж самае гучанне над верасамі памяці. Застаешся ўдзячны пісьменніку за тое, што ён прынёс табе радасць сустрэчы са сваім пакаленнем. Ганарышся, што такія людзі, як героі І. Навуменкі, не растрацілі сваіх лепшых духоўных якасцяў, ні ў малым, ні ў вялікім, не здрадзілі і самім сабе.

Алесь МАРЦІНОВІЧ



**Уладзімір МАРОЗ нарадзіўся 11 чэрвеня 1953 года ў горадзе Косава Івацэвіцкага раёна. Скончыў БПІ і Літаратурны інстытут імя А.М.Горкага. Працаваў на ВТА "Інтэграл", у інстытуце "Мінскпраект", Дзяржкіно БССР, на студыі "Летапіс" кінастудыі "Беларусьфільм". Цяпер – намеснік галоўнага рэдактара часопіса "Бярозка". Аўтар кніг "Голас", "Рэй", "Хутаранская зорка", кнігі эсэ "Мінск старадаўні і малады".**

**Аўтар сцэнарыяў каля 50 дакументальных, навукова-папулярных фільмаў і кінаальманахаў. Фільм "Успамін пра Міколу Равенскага" ў 1984 годзе адзначаны Дзяржаўнай прэміяй Рэспублікі Беларусь.**

**Віншуючы Уладзіміра Вікенцьевіча з юбілеем, зычым яму і надалей натхнення і творчых поспехаў.**

**Уладзімір МАРОЗ**



## ДА СУЛАДДЗЯ

*Адбівае паэзію тлум,*
*Мітусня ды старанне выжыць.*
*Непатрэбна-нязбыўны сум*
*Падкрадзецца лісою рыжай,*

*Каб украсці твой сыр-гаюн,*
*Каб надзею згубій і веру,*
*І забыўся, што быў пяюн,*
*Словам светлым крапіў паперу.*

*Як ліса, так і сум — падман,*
*Не зняволься яму паддацца.*
*Разгайдана-няпэўны стан*
*Ненадзейны цяпер дарадца.*

*Акажыся мудрэй, вышэй,*
*Як мага, паімкні да волі.*
*Перамогамі будзь дужэй,*
*У суладдзі шукай спатолі.*

*Лісцем сонца залоціць след,*
*Восень цёплыя фарбы кіне.*
*Твой адзіна-чароўны свет*
*Прамінецца, але не згіне.*

*Беражы ты яго, сябе*
*Цудадзейна-наўлоўным словам.*
*Адначасна ў жніве-сяўбе*
*Адкрываешся вечна новым.*

## ПАКРОВЫ

*Восень ціха пагляд прыварожвае*
*Залатою шчымлівай парой.*
*Лісцяў-кветак мігценне прыгожае*
*Ашчаджае вястун-лістабой.*

*Ён сваё яшчэ возьме напоўніцу —*
*Скіне з дрэваў убранне на дол.*
*А пакуль сэрца радасцю*
*поўніцца —*
*Фарбаў-водбліскаў цэлы прыпол.*

## ТУМАНОВАЕ КОЛА

*Густы туман каўтае першы снег,*
*З'ядае прагна, люта, ненажэрна,*
*Праявіць бруд, прысыпаны*
*наспех —*
*Тым чысціню заб'е неміласэрна.*

*Будзённы тлум знішчае твой*
*імпэт,*
*Да шчасця глуха зачыняе дзверы.*
*І не згадаеш, быў ці ты паэт,*
*Які кахаў, надзеяй жыў і верыў.*

*Суровы час, калі ніхто з табой*
*Да прышласці любові*
*не пакрочыць.*
*Спрэс блуд душы, разлад*
*і непакой —*
*Туманам дні падроўнены да ночы.*

*Але душа ўсё прагне любаты,*
*Ружовых мараў, пекнасці і шчасця.*
*Калі ж, калі бязладдзем нематы*
*На дабрадаць адведаем прычасця?*

*Быў першы снег — і вось яго няма,*
*Меў чысціню, а сёння енчыш:*
*дзе я?*
*Туманных дзён адольвае гурма —*
*Што твой адказ і што твая*
*надзея?*

## СТУДЗЕНЬСКІ НАСТРОЙ

*Пяшчотнае сонца і студзень*
*Залашчаць прадвесцем-цяплом.*
*Надзеяў накоціцца гудзень,*
*Зачэпіць вірліва крылом.*

*Нахлынуць шчымлівыя хвалі,*
*Разгоняць застылую кроў.*
*Усё, што сабе абяцалі,*
*Здзяйсняльным здаецца ізноў.*

*І хочацца жыць і смяяцца,*
*Радкі на сінечы пісаць.*
*Запал, твой хаўруснік-дарадца,*
*Пасцеліць праз вусцішнасць гаць.*

*Душы адступаецца вепал,*
*Сплывуць пакаяннем грахі.*
*Не бойся, імкніся наперад,*
*Дзе горкія клічуць шляхі.*

## ШЛЯХ ДА ГАРЫ

*І гэтай дарогай адходжана,*
*І тую дарогу прайшоў...*
*Здаецца: вось-вось узыходжанне*
*Да новых прасветленых слоў.*

*Але расчаруешся горка*
*Няздатнасцю дольніх шляхоў.*
*Наперадзе бачыцца горка —*
*А ты да яе не дайшоў.*

*Абтопчаш каля ды наўкола,*
*Натоўп замінае ісці.*
*Будзённасці тлумнае кола*
*Цябе закапае ў трысці.*

*Ізноў на бальшак выбірацца,*
*Свой горні гасцінец шукаць.*
*На ростанях крыж твой, дарадца,*
*Адзіна імкне падтрымаць.*

*Нясеш ты яго, як належыць —*
*Патрэбна да ўзгор'я дайсці.*
*Ізноў перастрэне бязмежжа,*
*Бяссэнсіца ў нашым жыцці.*

*Але ты ўжо можаш, не збочвай,*
*Ад Моцнага прыклад бяры.*
*Праз дні і задушныя ночы*
*Імкніся дайсці да гары.*

## СПАГАДА ДАРОГІ

*Калыханкі паслухай дарожнае*
*Для адхлання самотнай душы.*
*Забірае ў палон, прыварожвае*
*Шоргат шын па вільготнай*
*шашы.*

*Самаходы пажадліва коламі*
*Выпіваюць прасторы нагбом,*
*Падвываючы ціха, маторамі*
*Аддаюць кіламетры на злом.*

*Праляатаюць дамоў, несупынныя,*
*Толькі ты непрытульны стаіш.*
*Ці даруюць усе, каму вінен я? —*
*Адпытаецца вецер-скавыш.*

*Тармазні, брат, падкінь*
*да нязнанага,*
*Да кахання шляхі пакажы.*
*Дай спакою дабрацца жаданага,*
*Каб патухлі згрызот міражы.*

•

*Пакінь адзенне, хто сюды*
*ўваходзіць,*
*У гмах кахання стромкі на дваіх.*
*Жаданняў пругкіх рупіцца*
*нязводдзе,*
*Сустрэч салодкіх незваротны міг.*

*Абдымкаў звяз ад свету*
*адняволіць,*
*Дрыготкай хваляй прабяжыць*
*няўзнак.*
*Гульні хвіліны цягнуцца паволі —*
*Ты не праспешвай насалоды смак.*

*Пайней пяшчотай пругкай*
*наталіцца,*
*Да донца любасць выпіць нам*
*з табой.*
*Гуляе недзе блізка бліскавіца,*
*Чакае толькі пэўны момант свой.*

*Святлее змрок штораз ад нашых*
*целаў,*
*Збавення стан агорне цеплынёй.*
*Спазнаны крык сарвецца грушай*
*спелай,*
*Сваволіць рэха над усёй зямлёй.*

•

*Ціхім дажджом арабін*
*Восень наўсцяж сустракае.*
*Крочу праз чырвань адзін —*
*Сёння планіда такая.*

*Роўна палова ўсяго —*
*Голых галін і што з лісцем.*
*Шляху кахання майго*
*Дзе ратавальнае выйсце?*

*Ведаю: ты без мяне*
*Крыж свой нясеш адзіноты.*
*Хай лістабой абміне*
*Нашы бяззбройныя цноты.*

*Сэрца баліць, што не змог*
*Золкіх расстанняў пазбыцца.*
*На скрыжаванні дарог*
*Стрэча павінна адбыцца.*

*Вуснаў з гаркавінкай смак,*
*Любай адданыя вочы.*
*З ростані сыдзем няўзнак,*
*Разам праз чырвань пакрочым.*

*Вецер сарваным лістком*
*Месца ля рэчкі пакажа.*
*Там пабудуем свой дом —*
*Лёс наш надзейна развяжам.*



# ЛЕКЦЫЯ

**(Урывак з рамана)**

Андрэй ФЕДАРЭНКА



«Ну што? Прачытаў?»

Трухан з Ведрычам сядзелі па абодва бакі стала. Пасярэдзіне ляжаў рукапіс. Трухану відаць было толькі першую старонку, усю скрэмзаную, у заўвагах, пазнаках, надпісах паверх радкоў, з мноствам разлапістых рымскіх «пяцёрак»-галачак на палях. І страшна было на яе пазіраць і разам з тым Трухан не мог адарваць ад яе вачэй.

А Ведрыч, выпрабоўваючы чужое цярпенне, спакойна курыў, марудна зацягваўся, паволі выпускаў дым.

«Нашто ты гэта пішаш?» — прамовіў ён нарэшце.

«Ды ўжо ж не дзеля ідэі, не дзеля пошукаў станоўчага героя, — заспяшаўся, нібы толькі такога пытання і чакаў, Трухан. — Калі шчыра, мне проста трэба пазбавіцца ад гэтага наслання — ад другога свайго жыцця, скінуць з сябе гэты дурман, разгрузіцца хоць такім чынам — проста запісаўшы яго на паперы!»

«І дзе ты сабраўся гэта дзяваць? Нясці ў друк? Ці ўсё ж у стол?»

«Якая розніца?»

«Вялікая. Калі пішацца для сябе, для сяброў, ці, скажам, для ўласных будучых сямейнікаў, што збяруцца доўгім зімовым вечарам каля агменю, павыключаюць тэлевізары, камп'ютэры, запаляць свечкі... Сівы, з захутанымі пледам нагамі паважаны бацька сямейства — Алесь Трухан — сядзіць у крэсле-качалцы, калываецца, як манекен, самы меншы ўнук разгортвае зашмальцаваны аблуплены агульны сшытак і, пракашляўшы горла, звонка заводзіць: «У сваю апошнюю ноч у гэтым шпіталі і ў гэтай палаце»...

«А ты ўмееш распісваць! Сам не спрабаваў прозу?»

«Я яе цярпець не магу, вашую прозу. Гэта — зямля, у той час як паэзія — неба! Азарэнне, бліск маланкі, міг салодкага трансу... А проза! Штосьці неверагоднае для нармальнага чалавека — з дня ў дзень, з году ў год адно й тое...»

«Ну-ну, — астудзіў яго Трухан, і разам з тым прыемна яму было, што і яго Ведрыч адносіць да празаічнага цэху. — Бліжэй да тэмы, калі ласка».

«Бліжэй да тэмы, — паўтарыў, каб не губляць думку, Ведрыч. — Помніш, тады, на балконе, я казаў, што чакаю твора, за які аўтар гатовы быў бы пайсці ў турму, нават на смерць? Згодзен — гэта мо і залішне. Але для цяперашняй прозы, увогуле для цяперашняй літаратуры крытэрыі павінны быць зменены, планка павінна быць паднятая на максімум: пісаць, ці хоць бы старацца пісаць так, каб не прыняла ніводная афіцыйная рэдакцыя. Бо гэта не твор, калі яму аўтаматычнае зялёнае святло нават не на скрыжаваннях, а на роўнай вуліцы. Сапраўдны твор павінен парасткам падняць над сабою глыбу бетона, прабіцца, узмужаць... У цябе такі твор? У ім дастаткова жыццёвай сілы?»

«Ну і пытанне... Наўрад ці, канечне...»

«Вось бачыш! З гэтага давай і пачынаць. Вось усе вашыя прэтэнзіі, усе вашыя вяршыні. Навошта ордэн? — пагаджуся на медаль. Значыць, свядома пішацца прахадны твор? З разлікам на рэдакцыі!»

«Ды якія рэдакцыі?! З мяне цябе аднаго пакуль вось так хапае. Хаця... Ведаеш, ты мне зараз адкрыў вочы на адну рэч цікавую... Што самае цяжкае ў літаратуры — гэта, аказваецца, не застольнае забіванне часу, не пошукі патрэбнага слова, не абкатка стылю, не біццё над гармоніяй формы, не іншыя, у прынцыпе абавязковыя і па-свойму салодкія «пакуты», а момант развітання з рукапісам, калі трэба аддаваць яго ў чужыя рукі і на чужыя вочы; дарагое, любімае дзіця, якое выпесціў, выгадаваў, родная крывінка, сябе частка — і раптам чамусьці трэба вясці яго «ў людзі»! Цягнуць у нейкія рэдакцыі, дзе ніхто і ўяўлення не мае, нават і ведаць не захоча, як гэтае дзіця расло, як хварэла, колькі давялося разам з ім перажыць, — а будуць толькі распранаць яго, ды абмацваць, ды разглядваць, як на медыцынскай камісіі...»

«У сэнсе, галачкі на палях ставіць?» — спытаў Ведрыч.

«... А яно — аглушанае, спалоханае, будзе толькі азірацца ды хныкаць, просячы дапамогі...»

«А ты паэт, аказваецца!»

«А ты — празаік, — не астаўся ў даўгу Трухан. — Дык што, можа, пяройдзем уласна да...»

«Ужо перайшлі. Дарэчы, як ты ставішся да падобных збегаў?»

«Аніяк. Дзядзька, што пераехаў на кані брод, не стане ж клапаціцца пра збегі зычных і галосных, а крыкне на другі бераг: «Ужо пераехаў!», і павер — і жонка, і кум, і сват, і брат выдатна яго зразумеюць і заўваг яму рабіць не будуць...»

«Два плюсы паставіць магу, — сказаў раптам Ведрыч і Трухан не адразу зразумеў, што гэта ўжо пераехалі да ягонага тэксту. — Першы — што шукаеш новых формаў, другі — што выбраў ракурс, які выключае гэтую гадкую стылізацыю, ведаеш, усе гэтыя штукі, калі «Рагвалод насупіўся, а Рагнеда папраўляла на лебядзіны шыі каралі, а Міндоўг падпёр у задуменні галаву»... Тое, што ты выправіў у свабоднае плаванне па эпохах менавіта сучаснага героя, і ёсць тое, што трэба, — ты нічога не выдумляеш, а ідзеш за ім, шукаеш тое, што ты вачыма збіраешся...»

«Мінусы, мінусы!» — перабіў, пачырванеўшы, Трухан, якога рэдка калі ў жыцці хвалілі.

«І мінусаў два. Праўда, доўгіх, як злітыя пункціры. Па-першае, што за манера не ўказваць аўтарства пад эпіграфамі?»

«Таму што кожны адукаваны чалавек ведае іх са школьнай праграмы, павінен ведаць, прынамсі; а той, хто не ведае — дык навошта такі чытач?»

«Другое — як ты справішся з факталогіяй? Як будзеш апісваць побыт, характары... Маўчы! Ведаю, што скажаш, што табе сніцца ўся гэтая лухта, а ты толькі механічна яе занатоўваеш... Дык вось, можаш не старацца, у мяне такія нумары не праходзяць. Адно напаследак параю — не збіся на творы іншых пісьменнікаў на гэткія ж тэмы, бо, сам таго не хочучы, пачнеш паразітаваць на іх, у лепшым выпадку парадзіраваць... І яшчэ — слухай: пад каго ты ўвогуле пішаш?»

«Як... гэта?»

«Я да якога пісьменніка цябе ні прымяраю, усё ты вылузваешся, нараўвішся, не ўкладваешся...»

«А-а, дык у цябе такія крытэрыі? Самыя прымітыўныя — параўнанні? Каб абавязкова было пад кагосьці? А ты не дапускаеш, што я — новы? Я — прыйшоў!» — гарачыўся Трухан.

«Чужое... Так з цябе гэтыя цытаты і пруць, так і сыплюцца... Ты ж начытаны, праўда?»

«Паляжаў бы ты з маё па бальніцах, яшчэ б не так начытаўся...»

— ...Трухан, устаньце! Трэці раз да вас звяртаюся! Чым вы там займаецеся?!

Трухан падняўся з-за парты, лыпаючы шырока расплюшчанымі і адсутнымі, як у лунаціка, вачыма. Ніякага Ведрыча не было ў паміне. А была аўдыторыя — вялікі, напалавіну запоўнены студэнтамі і студэнткамі дзвюх груп клас, з будкай кафедры каля дзвярэй, са школьнай дошкаю на сцяне. І перад Труханам — па іроніі ці па заканамернасці лёсу — стаяла выкладчыца беларускай літаратуры, таго самага прадмета, якім ён усю лекцыю сам з сабою забаўляўся і які на іспытах ледзь выцягваў на дохлую «троечку»; зрэшты, выдатнікам яго цяжка было назваць і па ўсіх іншых дысцыплінах.

Вольга Сяргееўна ведала гэта. Яна стаяла цяпер перад Труханам і паляпвала па далоні ўказкаю, спецыяльнай такой шарыкавай ручкай, што выцягваецца на манер антэны.

— Дазвольце пацікавіцца, што ў вас у сшытку? Што вы так старанна запісвалі? Вы ж галавы не адрывалі ад яго цэлую лекцыю!

Трухан загарнуў сшытак. Потым на вачах выкладчыцы паклаў яго ў сумку. І ўсё гэта моўчкі. А і праўда, — падумаў ён, — чым я тут займаюся, на што час марную, калі мне, можа, жыць два панядзелкі засталося...

Ні слова не кажучы, ён устаў. Узяў сумку, выбраўся на праход і як ні ў чым ні бывала, як так і трэба, пайшоў сабе да дзвярэй.

— Трухан, вы што? — пачулася ззаду разгубленае. — Вярніцеся! Я...

Стукнулі дзверы і ўсё сціхла.

А які быў снег на вуліцы! Якое сонца! Якое марознае паветра! І як не хацелася ісці па гэтым чыстым скрыпучым белым сняжку да шэрага, змрочнага, скразнякамі прадзьмутага інтэрната-інкубатара, у камеру-клетку, да вечнай адзіноты...

Карацей, Ведрыч — не ўяўны, не ў сшытку прыдуманы, а сапраўдны, аб'явіўся толькі дні праз тры, вечарам. Дастаў з кішэні кажуха хурміну, з другой — другую, моўчкі паклаў на стол; такія вялікія, цёмнааранжавыя, з пражылкамі спеласці заморскія плады сярод зімы. Трухан, чамусьці падумаўшы, што зараз пачнецца між імі дыялог кшталту таго, змадэляванага ім на лекцыі, спытаў:

— Ну як? Многа заўваг?

— Пра што ты? — здзівіўся Ведрыч. — А-а, пра сваю пісаніну? Ведаеш, я не чытаў. Нават папкі разгарнуць не паспеў. Зараз раскажу. Вяртаюся тады ўночы ад цябе, тут шах — у праходным двары трое, засланяюць дарогу. Адзін за сумку, помніш, у мяне была такая афіцэрская («ахвіцэрская», вымаўляў Ведрыч). Ах, ты, думаю! Размахнуўся, я-а-ак умазаў гэтай сумкай па галаве! Ён з капытоў, сумка адарвалася, тыя ўцякаць, я за імі!.. Не здагнаў. Вяртаюся — ні таго, ні сумкі. А там грошы, дакументы, вершы... Папка твая. Асабліва літфондаўскага білета шкада. Прыгожы такі.

— А вершаў? — смеючыся, спытаў Трухан.

— Вершаў таксама, я ж іх не запамінаю.

Шкада было, канечне, і Трухану папкі. Але ў адрозненне ад Ведрыча ён помніў кожнае сваё слова напамяць, нават у якім месцы ў рукапісе яно стаяла. Ды і навошта яму тэкст? Нікому больш ён яго паказваць не збіраўся. Толькі падумаў, што вось яшчэ і такая — практычная — карысць можа быць ад роднай літаратуры: гэта ж яго папка і Ведрычавы вершы фізічна, у прамым сэнсе памаглі адбіцца ад нейкіх прыдуркаў!



*Дзеянне рамана, які мяркую неўзабаве скончыць, адбываецца ў 1989 годзе — у часы "Тутэйшых". — Аўт.

# ПІСЬМЕННІК УСІХ ПАКАЛЕННЯЎ

Янка Маўр... Гэтага пісьменніка любяць і ведаюць усе, хто захапляецца прыгодамі і фантастыкай, гісторыяй і геаграфіяй.

"Цікава, што скажуць пра мяне, калі мне будзе сто?" — так, расказваюць, спытаў аднойчы Янка Маўр аднаго з супрацоўнікаў часопіса "Вожык", дзе ён пасля вайны часам выступаў з артыкуламі на міжнародныя тэмы.

Трывога пісьменніка была дарэмнай. Цяпер, калі адзначаецца 120-годдзе з дня нараджэння Янкі Маўра, мы асабліва адчуваем, што яго спадчына — жывая і дзейсная частка нашай нацыянальнай літаратуры. Творы пісьменніка карыстаюцца шырокім прызнаннем у чытача.

27 мая ў Цэнтральнай гарадской дзіцячай бібліятэцы з нагоды 120-годдзя з дня нараджэння Янкі Маўра адбылася вечарына. На ёй прысутнічалі літаратурны крытык Маргарыта Яфімава, пісьменнікі Мікола Чарняўскі, Васіль Зуёнак, Алесь Наварыч. У сваіх выступленнях яны падкрэслілі, што з дзяцінства зачытваліся кнігамі Янкі Маўра, што і сёння высока цэняць творы пісьменніка, удзячны яму за тое, што сваёй непаўторнай творчасцю ён прывіў ім любоў да роднай мовы, прыроды, да ўсяго добрага на зямлі.

Амаль усе выступаючыя ў свой час сустракаліся з Янкам Маўрам. І ім было чым падзяліцца з прысутнымі. Так літаратурны крытык Маргарыта Яфімава расказала пра яго сям'ю, пра тое, як "нарадзіўся" ў пісьменніка Фёдарава яго псеўданім Янка Маўр. Васіль Зуёнак бачыў Маўра ўсяго адзін раз, але, тым не менш, ад сустрэчы засталося моцнае ўражанне. "Гэта быў чалавек відны, высокага росту, памяркоўны, ён гадзінамі мог расказваць пра сябе, пра сваю літаратурную працу, пра цікавыя сустрэчы, займальныя жыццёвыя факты, здарэнні, — сказаў В. Зуёнак. — Нельга было не заслухацца яго аповедамі, у якіх сур'ёзнае, неверагоднае перамяжоўвалася з жартоўным і смешным. Гэта быў цікавы чалавек, апавядальнік, пісьменнік".

Адказны сакратар дзіцячага часопіса "Бярозка" Алесь Наварыч сказаў, што на жаль, па ўзросце, яму не давялося сустрэцца з Янкам Маўрам, але ўсе яго кнігі ён прачытаў яшчэ ў дзяцінстве. Алесь Іванавіч правёў з чытачамі гульню-падарожжа па творах Янкі Маўра і за правільныя адказы падараваў тром хлапчукам часопіс "Бярозка".

Сустрэча прайшла жыва і цікава, дзякуючы выдавецтву "Мастацкая літаратура" і асабіста Зосі Куставай, якая з'явілася арганізатарам і ініцыятарам яе правядзення. Шмат чаго новага пачулі нашы чытачы аб жыцці і творчасці Янкі Маўра. Творы класіка дзіцячай нацыянальнай літаратуры Янкі Маўра жывуць і будуць жыць, імі будуць зачытвацца ўсё новыя і новыя пакаленні беларусаў", — падкрэслівалі прысутныя.

Людміла БУСЕЛ

**КІНО**

У рамках Дзён Швецыі ў Мінску ў кінатэатры "Перамога" праходзіць рэтраспектыва фільмаў славутага шведскага рэжысёра Інгмара Бергмана. Кінапаказ пад агульным назовам "Інгмар Бергман. Партрэт майстра" (арганізатары — Шведскае консульства ў РБ і "Кінаклуб") склалі стужкі розных гадоў, але большасць з іх прысвечана таямніцам жаночай душы. Мінчукі ўжо пагледзелі чатыры карціны Бергмана: "Крызіс" (1946 г.), "Лета з Монікай" (1953 г.), "Жаночыя мары" (1955 г.), "Маўчанне" (1963 г.). Але ў аматараў якаснага еўрапейскага кіно ёсць яшчэ магчымасць (з 16 па 18 чэрвеня) пабачыць такія вядомыя фільмы Бергмана, як "Асоба" (1966 г.), "Шэпты і крыкі" (1973 г.), "Фані і Аляксандр" (1982 г.).

В. Б.

**З ДАРОГІ**

***Гартаю нататнік, які пабываў у нашай некаранаванай сталіцы падчас VIII Беларускага фестывалю камернай музыкі...***

## ПОМНІК КАХАННЮ

Мініяцюрны палац, увянчаны яркай дахоўкай: звыкла! Звыклы знак гарадскіх ваколіц і колішніх пустак. Вока ўжо не вылучае з архітэктурнага далягляду будынкі такога кшталту, адмыслова, нібы варыяцыі на тэму, растыражаваныя і вакол сталіцы, і на "прасунутай" перыферыі.

# НЯСВІЖСКІЯ НЕЗАБУДКІ



Тады чаму ж нашы вочы, прымружаныя ранішняй "аўтобуснай калыханкай" па дарозе да Нясвіжа, прачнуліся ад здзіўлення, калі за вакенцамі паплыў знаёмы краявід?

Катэдж у цэнтры горада. Дзіва што! Праўда, летась яго яшчэ не было. Але за год узвесці такі палац немажліва. Дык, значыць, ён стаяў тут і летась? А хіба не заўважылі б мы яго ўжо тады — вялізны, але зграбны ад стылізаваных старасвецкіх абрысаў, такі раскошна белы, пад чырвонай чарапіцай, асабняк!

Заўсёднікі нясвіжскіх фэстаў спрачаліся, пакуль не пачулі кранальную гісторыю.

Навюткі катэдж, наўлоўна падобны да сваіх продкаў — помнікаў замкавага дойлідства, паўстаў сёлета паблізу колішняга кляштара бенедыкцінак (у браме якога, кажуць, была жывой замураваная манашка, "заспетая ў любошчах"). Нейкі багаты чалавек за казачна кароткі тэрмін пабудаваў гэты прыгожы дом для сваёй каханай і яе, а дакладней, — іх дзіцяці. Сам жыве не ў Нясвіжы, мае жонку, сям'ю. Мае, пэўна, і вялікае каханне, і вялікі мужчынскі гонар, і вялікае сэрца: іначай ці быў бы ён здатны зрабіць княжацкі падарунак?

Сучасны помнік каханню, безумоўна ж, атуляць легенды — кшталту даўніх, натхнёных імёнамі князёў Радзівілаў, гісторый кахання прыгажуні Барбары...

"Помнік каханню", дарэчы, — назва п'есы знанай несвіжанкі К. Шышыгінай. У новым творы ўвасобілася старонка жыццяпісу ўладароў некаранаванай сталіцы земляў беларускіх, звязаная з асобай Урсулы Радзівіл. Спектакль народнага тэатра Нясвіжскага раённага цэнтра культуры і адпачынку, пастаўлены В. Марозам, быў паказаны за дзень да ўрачыстага адкрыцця фестывалю "Музы Нясвіжа — 2003". Кажуць, прэм'ера прайшла паспяхова. На жаль, сталічным журналістам пабачыць яе не давялося.



## ЛІЧБЫ: 13,780...

Што іх звязвае, гэтыя лічбы? Тое, што першая ў 60 разоў драбней за другую! Зрэшты, для мяне яны, хутчэй, не лічбы, а факты. Аж чвэрць стагоддзя (жах які!) давялося мне высноўваць працоўны будзень у рэдакцыйным пакоі пад нумарам "13". А сёлета, упершыню за час нясвіжскіх вандровак, дастаўся ключык і ад гасцінічнага пакоя пад шчасным трынаццатым нумарам: вакно глядзела проста на ратушу! Яе аднаўленая вежа пад шпілем — то ў полі бязвоблачнага блакіту, то ў карунках вечаровых, падзалочаных сонцам, хмурынак, то ў начным аксаміце — аказалася неспадзяванай кампаньёнкай, маўклівай высакароднай спадарожніцай майго вандроўнага побыту.

Хутка ратуша, памаладзелая панна "з мінулым", апынецца ў цэнтры вялікага свята: 3—4 ліпеня Нясвіж адзначыць свае 780 гадоў. Чакаецца каля 40 тысяч гасцей, у тым ліку з-за мяжы. Сціплы гатэль усіх не прыме: рыхтуюцца "паляўнічыя хаткі", месца для кемпінга. Горад, які заўжды ўражваў чысцінёй вуліц, ахайнасцю падворкаў, дагледжанасцю кветнікаў, шляхетнасцю месцічаў, заўзята "працуе над сабой". Без выхадных. Расстаўляючы гістарычныя акцэнты, што падкрэсліваюць яго прыгажосць. (Нават помнік Леніну перамешчаны: ад галоўнай плошчы, дзе ратуша, — у зялёны куток ля суседняй вуліцы.)

На плошчы ў дні свята завірує абуджаная даўніна: з'едуцца гандляры ды рамеснікі, разгорнецца кірмаш з яго каларытнымі беларускімі ды выкшталцонымі еўрапейскімі традыцыямі. І ля ратушы, і ў старым радзівілаўскім парку будзе месца для майстроў-штукароў, для музыкаў, для тэатралізаваных імпрэз, для рыцарскіх турніраў.

Старшыня райвыканкама, мэр Нясвіжа Ф. Прывалаў, распавёўшы пра падрыхтоўку горада да юбілейных урачыстасцяў, прадставіў журналістам і партрэт раёна, які заняў адметнае месца на Міншчыне ды і ў краіне дзякуючы колішнім знаным кіраўнікам — У. Дражыну, Л. Крупцу. Называліся лічбы — лепшае сведчанне таго, як параўнальна малая па плошчы гаспадарка можа дасягаць вялікіх вытворчых вынікаў пры рацыянальнай арганізацыі працы.

Сярод галоўных задач Ф. Прывалаў называе... камп'ютэрызацыю школ свайго аграрнага раёна. Інакш — няма перспектывы. Бо сёння ў самай перадавой і вядомай гаспадарцы Нясвіжчыны "Сноў" кожная даярка працуе на камп'ютэры: ферма набыла нямецкую тэхніку, дзякуючы якой падчас даення можна і тлустасць малака вызначыць, і рацыён кароўкі вывучыць, і стан яе здароўя праверыць. А механізатар на сучасным камбайне атрымлівае "раздрукоўку" з інфармацыяй пра вільготнасць сабранага зерня, пра ўрадлівасць палетка...

Як тут без камп'ютэрнай адукацыі вясковых школьнікаў!

Нават сельскагаспадарчы раён адчуе неўзабаве значнае змяншэнне вясковага насельніцтва. У выніку міграцыі ў гарады там ужо сёння засяроджана 70% жыхароў краіны, што ўвогуле заканамерна ў век высокіх тэхналогій. Значыць, трэба паклапаціцца пра сацыяльную інфраструктуру, развіццё сферы паслуг. Тым болей, што Нясвіж — месца унікальных магчымасцяў. Ён заўсёды быў і застанецца, на думку Ф. Прывалава, некаранаванай сталіцай. І перспектыва яго звязана ... з мінуўшчынай. Унікальны палацава-паркавы комплекс дае магчымасць развіваць тут міжрэгіянальны турыстычны цэнтр, які знітуе шляхі на Мір, Баранавічы і г.д. Ужо ёсць праекты двух вялікіх атэляў, якія паспрыяюць прытоку замежных турыстаў, а значыць — і прыбытку ў бюджэт раёна. Спачатку, вядома, трэба ўкласці грошы ў рэстаўрацыйныя работы на галоўным аб'екце. Аднак... Пасля аператыўнай, кваліфікаванай і высакаякаснай працы па ліквідацыі наступстваў леташняга пажару на гарышчы замка працэс рэстаўрацыі замарудзіўся: нестабільнае фінансаванне.

Пабывала я там, "у Радзівілаў". Замак, хаця яго і паказваюць экскурсантам, — нібы цяжкахворы на аперацыйным стале. Як спрацуюць "хірургі"? Якім паўстане ён пасля "наркозу": абноўленым і здаровым? Хацелася б убачыць яго ўшчаслівае вяртанне ў жыццё.

А ў парку — адхланне. Даверліва пазіраюць светлавокія незабудкі; мурог усміхаецца бела-ружовымі маргарыткамі; шчыруюць галасістыя птушкі... І дзіву даешся, які багаты спектр у зялёнага колеру.

## АГІНСКІ ПЛЮС

Зноў — лічба: 170. Столькі гадоў мінула з таго часу, як завяршыўся зямны шлях вялікага патрыёта, дыпламата, Музыканта. Земляка нашага і, скажу так, ліцьвіна "паводле веравызнання", — Міхала Клеафаса Агінскага. Ды лічбу тую, здаецца, падчас фестывалю ніхто і не згадаў. Не ёй, не даце, не літары — а духу, асобе Агінскага прысвячаўся сёлетні фэст нясвіжскіх музаў.

Адчувалася гэта і ў атмасферы традыцыйнай Міжнароднай навукова-практычнай канферэнцыі на тэму "Мастацкая культура Беларусі: новыя далягляды". Выданне яе матэрыялаў, ажыццёўленае пад кіраўніцтвам рэктара Беларускага дзяржаўнага інстытута праблем культуры прафесара У. Скараходава, навукоўцы атрымалі акурат перад пачаткам свайго пасяджэння ў Нясвіжскім гісторыка-краязнаўчым музеі.

Але што можа замяніць непасрэдныя стасункі — глыток "жывой вады" для апантаных адмыслоўцаў!

Як дасціпна, пасля дакладу В. Пракапцова пра "Палескія Афіны" Міхала Казіміра Агінскага, падхапіла тэзіс пра славуты канал Агінскага даследчыца мастацтва архітэктуры Т. Габрусь і асэнсавала ў сваім выступленні крылатую фразу наконт "застылай музыкі". Як ёміста і па-мастацку ярка прагучалі два даклады "самага музычнага" нашага вучонага-літаратара і "самага музычнага" перакладчыка — У. Мархеля ("Атрыбуцыя рамансавых тэкстаў Міхала Клеафаса Агінскага", "Уладзіслаў Сыракомля і Адольф Янушкевіч — нясвіжскія юбіляры"). Пасля яго выступлення, здаецца, ніхто ўжо не сумняваўся, што тэксты не пазначаных аўтарствам 14-ці рамансаў М. Кл. Агінскага напісаны самім кампазітарам!.. Сярод самых розных дакладаў (выступалі Б. Лазука, Г. Куляшова, С. Немагай, В. Скорабагатаў ды інш.) арганічна ўспрымаліся і выступленні шаноўных гасцей з Польшчы З. Хахлінькай, Е. Мараўскага, Г. Серадз, якія даследавалі, адпаведна, кантату Я. Голанда, "музычнае школьніцтва" ў Нясвіжы канца 18 ст., лісты, хронікі, дзённікі, нататкі з жыцця выбітных асоб, у ліку якіх і М. Кл. Агінскі.

Асобе Агінскага прысвяцілі свае работы выхаванцы дзіцячай студыі выяўленчага мастацтва з Мазыра, якая існуе пры нафтаперапрацоўчым камбінаце і якой кіруе Святлана Купрыянава. Гэтая, ужо трэцяя тэматычная выстаўка студыйцаў на нясвіжскім фестывалі, запомнілася (як і папярэдняя, што

чых уяўленняў пра ўнутраны свет і абліччa Міхала Клеафаса, спробай праз малюнак выказаць уласнае разуменне Таленту, Радзімы і Любові да яе. Сінія бровы, жоўтая чупрына і казачна-фіялетавыя вочы: такім убачыў "Юнацтва Агінскага" Коля Ягур. Крылатая фігурка, ледзь заўважная ў лініях аблокаў, над летуценным профілем — "Залатыя крылы Агінскага" ва ўяўленні Тані Чарнашэй. І — незабыўны "Баль. Агінскі за раялем" Мішы Кухарэнкі. Толькі ўявіце гэты цуд: чорнае, пакрапленае сняжынкамі, неба; глыбокі пухнаты снег; старое дрэва; вятрак; дом, у вокнах якога балююць шляхетныя пары... А воддаль, на снезе, — раяль, за якім — самотны піяніст: рамантычна ўскінутыя рукі, непакорлівы пад ветрам шалік. Трывожна, шчымліва, маркотна. Глыбока і прыгожа!

Між іншым, размешчаныя побач работы юных мастакоў — стыпендыятаў Спецыяльнага фонду Прэзідэнта Беларусі па падтрымцы таленавітай моладзі выглядалі больш, скажу так, — акадэмічна правільнымі, напэўна, "прычасанымі" рукою педагогаў.

Кульмінацыя — вялікая канцэртная праграма, зладжаная калектывамі, што працуюць у структуры Дзяржаўнага канцэртнага аркестра Беларусі на чале з М. Фінбергам (ён жа, як вядома, і мастацкі кіраўнік "Музаў Нясвіжа"). Урачыстае адкрыццё з удзелам віцэ-прэм'ера У. Дражына. Кранальны пралог — "Паланез" у выкананні артыстаў Дзяржаўнага ансамбля танца Беларусі. Своеасаблівая анталогія фартэпіяннай творчасці Агінскага ў шматфарбных аранжыроўках А. Шпянёва ды Г. Гедыльтара — для Камернага аркестра пад кіраўніцтвам В. Сарокі, ансамбляў "Сірынкс" (кір. Н. Аўраменка), "Інтрада" (кір. М. Волкаў), салістаў на драўляных духавых інструментах (кіраўнік Б. Нічкоў, Г. Гедыльтар). З каментару заўсёднай вядучай фестывальных імпрэз В. Дадзёмавай вымалёўваўся прыцягальны вобраз М. Кл. Агінскага, яго бліскучы, драматычны і прыгожы лёс. А музыка... Вальс, паланезы, мазурка, раманс, алегра, і яшчэ вальс ды паланез, і яшчэ... Гэта варта было паслухаць!

А наступным днём — у Нясвіжскай школе мастацтваў выступалі стыпендыяты Спецыяльнага фонду Прэзідэнта Беларусі па падтрымцы таленавітай моладзі. Піяніст А. Музыкантаў, гітарыст І. Дзедусенка, дамрыстка С. Плахіна, балалаечнік (і складальнік уласных твораў!) М. Кавалевіч, скрыпачка Л. Саладухіна, баяністка А. Валынец. Пры канцы выступлення кожны з іх, маладых зорак айчыннага выканальніцтва, а таксама іх педагогі, атрымалі кампактдыскі з новымі запісамі стыпендыятаў фонду, у тым ліку — з уласнымі. Аднак, школьная зала на гэтай прэзентацыі непрыемна ўразіла мноствам пустых крэслаў. А выступалі ж музыканты, якім даводзілася чуць авацыі прэстыжных замежных залаў.

Заключная імпрэза фестывалю — і зноў незнаёмае ў знаёмым. Акадэмічныя калектывы — Нацыянальны народны аркестр імя І. Жыновіча (мастацкі кіраўнік М. Казінец, дырыжор А. Высоцкі) ды харавая капэла імя Р. Шырмы на чале з Л. Яфімавай прадставілі беларускую музыку розных часоў і стыляў. Як прызналася мне В. Дадзёмава, рэквіем з оперы А. Радзівіла "Фаўст" напісаны і для яе, знаўцы нашай музычнай даўніны, прагучаў як адкрыццё і незабыўнае ўзрушэнне. А прыемнай дэталлю заключнага канцэрта быў удзел у праграме гасцей з Польшчы — камернага інструментальнага трыо настаўнікаў.

•

Колькі яшчэ засталося дэталяў, імёнаў, лічбаў, занатаваных назіранняў-незабудак у маёй падарожнай кніжыцы! А што калі ўсё гэта ў свой час прыдасца-спатрэбіцца?

С. БЕРАСЦЕНЬ

*ФОТА А. КЛЕШЧУКА*

**НА ЗДЫМКАХ:** ратуша; "Інтрада"; С. ПЛАХІНА ды А. ВАЛЫНЕЦ.



ГАСЦЁЎНЯ

# МУЗЫКА ЗЛУЧАЕ ЎСЁ

***Прыгадваецца канцэрт 2000 года ў сталічнай філармоніі, калі публіка ўпершыню пачула імя маладой піяністкі Вольгі Маняці. Яна выканала сольную партыю ў Канцэрце А. Шнітке для фартэпіяна і струннага аркестра пад кіраўніцтвам маэстра Генадзя Праваторава. Сёння Вольгу Маняці ведаюць далёка за межамі Беларусі.***



**— Вольга, тры гады таму ці не было вам страшна — пачынаць творчую дзейнасць з выступлення на такой вялікай і адказнай — сталічнай сцэне?**

— Канечне, хваляванне было, але ж быў ужо і невялікі вопыт: падчас вучобы ў Беларускай акадэміі музыкі даводзілася сыграць некалькі сольных канцэртаў. Ды і падтрымка з боку аркестра і дырыжора была велізарная!

**— А пачыналася ўсё...**

— Прывяла мяне мама ў музычную школу. Як і ва ўсіх дзяцей, напэўна, бывае, — спачатку мне вельмі падабалася займацца. Педагог Лілія Уладзіміраўна Галачкіна ладзіла дзіцячыя конкурсы, ігру ў зале па эцюдах, гэта давала вялікую радасць. Потым пачаліся заняткі сальфеджыо, я прайшла ўсе прыступкі вывучэння музычнага пісьма, усё гэта рэзка перастала падабацца, захацелася кінуць, бо заняткі былі, як гаворыцца, праз не магу. Але ці то дзякуючы характару, ці таму, што мама мяне падтрымлівала, я скончыла музычную школу-сямігодку. Да таго ж, прыкладна к сёмаму класу мне захацелася працягнуць заняткі музыкай...

**— Як развівалася ваша творчая біяграфія пасля таго паспяховага філарманічнага дэбюта?**

— Адбыліся яшчэ два сольныя канцэрты ў камернай зале філармоніі. Пашчасціла таксама двойчы з'ездзіць у Іспанію, дзе грала Пяты Брандэнбургскі канцэрт Баха: спачатку па запрашэнні маэстра Праваторава з камерным складам аркестра Белтэлерадыё, потым з Дзяржаўным камерным аркестрам Беларусі пад кіраўніцтвам Пятра Вандзілоўскага.

**— Што скажаце пра замежных слухачоў?**

— Людзі вельмі любяць класічную музыку і з задавальненнем слухаюць. Вялізныя залы былі заўсёды поўныя; гэта радуе.

**— Здаецца, вы аддаяце перавагу выкананню сучаснай музыкі, бо ў вашым рэпертуары багата твораў Дзмітрыя Шастаковіча, Соф'і Губайдулінай, Пауля Хіндэміта, Бэлы Бартака, Радзіёна Шчадрына, Альфрэда Шнітке, беларускіх кампазітараў. Ці гэта так?**

— І так, і не. Мне сапраўды падабаецца далучацца да чагосьці новага, невядомага, што дае штуршок палёту фантазіі ў пошуку арыгінальных выразных сродкаў, пашырае творчыя магчымасці. Стараюся складаць праграмы сваіх канцэртаў такім чынам, каб адбываліся маленькія прэм'еры. Выдатным беларускім кампазітарам Галіне Гарэлавай, Дзмітрыю Лыбіну, новыя творы якіх упершыню гучалі ў маіх канцэртах, я вельмі ўдзячная за цудоўную, цікавую і поўную натхнення музыку. Але ж сярод маіх найлюбімейшых аўтараў таксама — Моцарт, Бетховен, Шуман, Шапэн, спасцігнуць усю глыбіню якіх немагчыма, і мая мэта — спрабаваць хаця б на тысячную долю прыблізіцца да гэтай глыбіні. А за такое шырокае кола інтарэсаў вялікі дзякуй педагогам, якія зрабілі ўсё, каб маё развіццё не спынялася "пры канцы 19 стагоддзя".

**— Калі ласка, раскажыце пра сваіх педагогаў.**

— Ролю педагогаў у маім жыцці цяжка пераацаніць. Мне з імі вельмі пашанцавала, пачынаючы са школы і далей, у акадэміі музыкі. Усе яны — Лілія Уладзіміраўна Галачкіна, Вера Аляксееўна Лагвіненка, Леанід Пятровіч Юшкевіч — асобы і музыканты з вялікай літары, пакінулі значны след у душы. Ніколі не ўціскаючы маю індывідуальнасць, яны выхоўвалі самае галоўнае: любоў да музыкі, жаданне іграць на раялі. І не проста іграць, а перадаваць праз гукі думку, пачуццё. Больш за тое: у нас склаліся шчырыя чалавечыя адносіны, і я заўсёды з радасцю прыходжу да Ліліі Уладзіміраўны або да Леаніда Пятровіча параіцца, паіграць ці проста адпачыць душой.

З болем разумею, што ніколі ўжо не змагу прыйсці да Веры Аляксееўны — гэтага роднага мне чалавека. Адораны Богам музыкант, яна так проста і натуральна грала на раялі, з такой пяшчотай ставілася да кожнага гуку, да інтанацыі! Яна і сёння застаецца для мяне эталонам, недасяжным і ідэалам дасканалага, абсалютнага духу.

**— Педагогі-музыканты дапамаглі захаваць і развіць вашу індывідуальнасць, выгадавалі вас як асобу творчую і са сваім мысленнем. Але ж, не сакрэт, вы яшчэ сур'ёзна займаецеся конным спортам. Як вам удаецца сумяшчаць гэтыя заняткі з ігрой на фартэпіяна?**

— Наогул, я не вельмі люблю змешваць адно з другім, бо калі ў мяне пытаюцца пра якія-небудзь музычныя дасягненні, а потым адразу — пра коней, я бянтэжуся. Для мяне гэта — абсалютна рознае, ува мне суіснуюць два зусім розныя чалавекі: адзін займаецца спортам, у яго свае радасці і няўдачы, а другі чалавек займаецца сваёй творчасцю. Дапамагае адно другому альбо перашкаджае — не ведаю, не магу розныя галіны змешваць.

**— І ўсё ж, напэўна, яны дапаўняюць адна адну, і калі-нікалі ўпартасць у занятках на фартэпіяна дапамагае займацца конным спортам...**

— Я б не сказала. Бо спорт — гэта спорт, там свае задачы і дасягненні. Музыка — гэта музыка, там задачы свае. І змешваць не варта. Ёсць, канечне, агульныя рысы характару, патрэбныя і ў адной справе, і ў другой, але калі б спорт існаваў без музыкі альбо музыка без спорту, я не думаю, што нешта змянілася б.

**— Вы хораша гаварылі пра ўплыў на ваша творчае развіццё з боку педагогаў. Гэта было выключна музычнае выхаванне ці ўсебаковае?**

— Зразумела, вялікі педагог (а я лічу, што мяне выхоўвалі вялікія педагогі) ніколі не будзе аддзяляць прафесійнае ад асабовага, тым больш у музыцы, дзе гэта ўсё пераплятаецца. Нездарма кажуць: сядзіць чалавек за раялем, ірае, і добры гэта чалавек ці дрэнны — адразу чуваць...

**— А яшчэ кажуць: калі чалавеку ёсць што сказаць, дык на раялі ён будзе граць вельмі пранікнёна...**

•

6 чэрвеня ў Зале камернай музыкі Вольга Маняці дала сольны канцэрт. Праграму з твораў В. А. Моцарта, Р. Шумана, Д. Шастаковіча, Г. Гарэлавай і Д. Лыбіна яна прысвяціла памяці цудоўнай піяністкі, педагога Веры Лагвіненкі.

Наталля МІЛЬТО

НОВАЕ

# СВЯТОЧНЫ НАСТРОЙ АД «ПАЛАЦА»



***Альбом "Лепшае" гурта "Палац", як і ранейшыя іх фанаграфічныя навінкі, вельмі хутка разышоўся з паліцаў музычных крамаў. А рэалізатары патрабуюць новых кампакт-дыскаў знакамітага гурта!***

Таму палацаўцы вырашылі не губляць ініцыятыву і прапанавалі на рынак свой чарговы альбом пад назвай "Святочны". Як патлумачыў лідэр гурта Алег Хаменка, канцэпцыя гэтай кружэлкі простая і зразумелая слухачу і пакупніку: дыск змяшчае апрацоўкі беларускага фальклору і аўтарскія кампазіцыі А. Хаменкі, якія прысвечаны асобным святам беларусаў — ці то каляндарным, ці то абрадавым. Таму на дыску сустракаюцца песні купальскія, калядныя, шчадроўкі, жаўнерскія, велікодныя, святочныя. Але асабліва шмат на дыску песень вясельных. Напэўна, гэтая тэма вельмі блізкая музыкам.

Адкрывае трэкліст "Святочнага" купальская (аўтарства А. Хаменкі) песня "У лузе...", аранжыраваная ў фолк-рокавым ключы. Тут адчуваецца магутнасць рытмсекцыі, якая ўзмацняецца цудоўным гучаннем беларускай дуды ў выкананні dj RAY. Гэтая кампазіцыя на народных інструментах будзе чутна ў кінастужцы "Анастасія Слуцкая", што ствараецца на "Беларусьфільме".

Ёсць на дыску і такія творы, што забяспечаць "Святочнаму" дыскатэчную папулярнасць. Маем на ўвазе ўжо выдадзеную на CD "Вольныя танцы: новая альтэрнатыва" і "Беларускі Турба-Міхэг — калядку "А ў заенкі...", а таксама песні з альбома "Чужыя дзеўкі", які не так даўно быў прадстаўлены замежным слухачам падчас гастроляў "Палаца" ў Францыі. Слухачы пазнаюць і аранжыраваную ў стылі кантры "Дзеўку-семілетку", і вясельную песню "Чужыя дзеўкі", дзе ёсць такі хвалюючы зварот да гадоў жыцця, што не вернуцца: "Верніцеся мое лета / Да мяне ў госці / А як нам жа верніціся / Да цябе ў госці / Трэба было шанаваці / Тай у маладосці".

Добра знаёмыя слухачам і іншыя песні гурта, у прыватнасці, рэмікс "Ночы", вясельная песня "Ой, долам", жаўнерская "На турэцкіх палях", на якую зняты цікавы відэакліп, і ён, дарэчы, быў прызнаны на "Рок-каранацыі—2001" лепшым.

З музычных навінак на альбоме неабходна адзначыць мяккую па гучанні і меладычную шчадроўку "Васілейка", у якой можна распазнаць і хрысціянскі светапогляд беларусаў, і адгалоскі іх былой паганскай веры. Аранжыроўка шчадроўкі цікавая на спалучэнне сола Ю. Белякова на трубе і С. Трухановіча на электрагітары. Атрымаўся цікавы дуэт у межах адной кампазіцыі!

А яшчэ ж прыцягне ўвагу слухачоў беларускамоўны варыянт знакамітага каляднага хіта "Jungle bells", які ў беларускай адаптацыі Алега Хаменкі названы "Звон звініць" — добры падарунак да будучага свята Калядаў. Як заўсёды, выйграе той, хто будзе слухаць кружэлку дома ў святочных абставінах. Гэта гарантуюць Хаменка і яго сябры.

Анатоль МЯЛЬГУЙ

Гледачы нашай рэспублікі ў апошні час не пакрыўджаны новым, цікавым і яскравым кіно. Усё больш на экранах кінатэатраў пачало з'яўляцца самых адметных стужак сусветнага пракату. Вось і зараз аматараў кіно чакае сустрэча з новым "гучным" фільмам, які аднолькава высока ацэньваюць як гледачы, так і вядомыя кінакрытыкі. Гэта амерыканская мастацкая кінастужка "Людзі Ікс-2" у пастаноўцы Брайана Сінгера.

Аб чым жа новая стужка? Зразумела, гэта працяг хіта 2000-га года "Людзі Ікс". Але які працяг!

...Магнета выйшаў на свабоду. Каб супрацьстаяць зноў узнікшай пагрозе свету прафесар Ксаўе павінен сабраць Людзей Ікс, да якіх далучыліся і новыя героі. І сярод іх асобы як высакародныя, добрыя, так і бязлітасныя, якія прагнуць улады і заваявання ўсяго свету...

Дзеянне першых "Людзей Ікс", як вядома, пачыналася ў канцлагеры і заканчвалася схваткай добрых мутантаў з дрэннымі на фоне статуі Свабоды — нам як бы намякалі, што дабро ўсё ж пераможа. У фінале "Людзей Ікс-2" усе мутанты, і добрыя, і дрэнныя, бягуць з бункера, як вязні з газавай камеры. Не дзіўна, што Брайан Сінгер зняў у свой час "Здольнага вучня" — фільм аб сяброўстве-нянавісці былога нацыста з выдатнікам-школьнікам.




У фільме здымаліся Іен МакКелен, Х'ю Джэкман, Патрык Сцюарт, Алан Камінг, Хэлі Бэры, Фамке Янсэн, Рэбэка Ромін-Стамас і іншыя.

Пэўна спадабаецца гледачам і новы амерыканскі фільм "Каханне з паведамленнем". Аўтар сцэнарыя і рэжысёр — Марк Лоранс.

...Мільянер Джордж Уэйд і кроку не можа зрабіць без Люсі Келсан, галоўнага кансультанта яго карпарацыі. Аднак паводзіць ён сябе з ёй хутчэй, як з нянькай, чым з юрыстам. Без яе ён нават не здольны падабраць сабе гальштук. І вось Люсі надакучыла нянчыцца са сваім начальнікам, і яна вырашае звольніцца. Джордж усяляк стараецца гэтаму перашкодзіць, але нарэшце згаджаецца адпусціць Люсі толькі з адной умовай — яна павінна знайсці сабе добрую замену, такую ж, як сама. У выніку адчайных пошукаў Люсі спыняе свой выбар на маладой і амбіцыйнай Джун, якая мае віды на новага боса. Люсі тым часам вырашае адправіцца ў марское падарожжа разам са сваім новым бойфрэндам. Галоўныя ролі ў гэтай прыгожай меладраме выконваюць зоркі сусветнага кіно Х'ю Грант і Сандра Булак.

І яшчэ адна стужка пра адвечнае пачуццё. Нават і назва падобная на назву папярэдняй стужкі — "Каханне па выпадку". Праўда, на гэты раз стваральнікамі стужкі з'яўляюцца французскія кінематаграфісты на чале з вядомым майстрам — рэжысёрам Джонам Шэрманам.

Перад намі імклівая рамантычная камедыя аб падзеях, якія здараюцца з ідэальнай дзяўчынай — калі заблытаная, калі камічная — і праз смех і кур'ёзы сучаснага жыцця мы ідзём да шчаслівага вырашэння праблем, якія спачатку здаваліся непераадольнымі.

Ролі выконваюць Моніка Поцер, Дэвід Барэнас, Энтані Ла Палья і іншыя.

Як бачна, ёсць што пагледзець. Таму не мінайце кінатэатры.

**Аляксандр БОГДАН,**
**Канстанцін РАМАНОЎСКІ**





***"Вечарам перачытваў Ігара Шклярэўскага. Праніклівы да глыбіні прыроднага таленту паэт... Хацеў напісаць: рускі, ды нешта замінае. Не слова, а дух... І — беларускі — напісаць замінае тое ж. Не дух, а слова..."***

***("Зацемкі з левай кішэні")***

**Леанід Галубовіч**



# ЛЕТАПІСЕЦ РАКІ

Паэтычны набытак Ігара Шклярэўскага колькасна, можа, параўнаўча і небагаты, але затое адметны ў мастацкіх адносінах. З 24 выдадзеных ім кніг 19 складаюць вершы і паэмы (прычым, любімыя паэтам творы пераходзяць са зборніка ў зборнік).

Творчасць Ігара Шклярэўскага стала папулярнай у многім дзякуючы таму, што ён закранае ў чытацкай душы струны, адказныя за памяць.Вядома, што асобу індывіда і, адпаведна, яго становішча ў грамадстве фармуюць шматлікія мікра-, меза- і мегафактары. Для Ігара Шклярэўскага самымі ўплывовымі з такіх фактараў сталі гарадское сацыяльнае асяроддзе (у тым ліку пасляваенны дзіцячы дом), сям'я і прырода. Усё разам узятае сфармавала чуйную, амбітную асобу, якая надзвычай балюча ўспрымае нават магчымасць непавагі да сябе і актыўна рэагуе на праявы чалавечай жорсткасці і несправядлівасці. Па прачытанні яго вершаў складваецца ўражанне, што стварае іх чалавек, які глядзіць на свет па-звярынаму востра, бачыць не проста далёка, але глыбока, чалавек, які разумее і любіць прыроду болей, чым людзей. Аматара яго паэзіі ніколькі не здзіўляе нязвыклае такі, напрыклад, пасаж: "И лошади лицо и морда человека / мне в зимний день запомнились, когда / в развалинах лежали города. <...>". Яго лірычны герой найчасцей жыве мінулым, знаходзячы ў ім своеасаблівую экалагічную нішу. Нават назвы многіх вершаў змяшчаюць у сабе гэтае надзённае для паэта слова — "успаміны": "Воспоминание о детском доме", "Воспоминание о Кричеве", "Воспоминание о 10-Б", "Воспоминание о болотах"... Адным з самых светлых і балючых успамінаў стала для паэта яго юнацкае каханне. Іх не так ужо і шмат — вершаў, прысвечаных Алене Чугуновай. Ды і ўласна самога слова "каханне" ў іх не сустрэнеш. Між тым вобраз "прадмета юнацкага захаплення" аказаўся надзвычай прыцягальным для паэта, настолькі, што нават сёння побач са словамі "донашиваю жизнь свою земную..." Ігар Шклярэўскі змяшчае радкі, прысвечаныя сваёй магілёўскай "Лауры":

*У Елены прохладные руки,*
*улыбаясь у края разлуки,*
*отраженья мелькают в стекле,*
*и уже этот вальс незабвенный*
*я на небе танцую с Еленой,*
*не простившись еще на Земле.*

Па нашых падліках, мінімум палова ад усіх вядомых чытачу твораў, напісаных Ігарам Шклярэўскім, прысвечана Магілёўскаму Падняпроўю. У некаторых жа зборніках яны пераважаюць над астатнімі. Гэта статыстыка. А калі браць глыбей, то можна засведчыць, што менавіта "магілёўскасць" вершаў Шклярэўскага стала адной з галоўных вызначальных рысаў яго паэзіі.

Адна з трох улюбёных Ігарам Шклярэўскім тэм стала асновай яго творчай пазіцыі, тэмай, якая аб'ядноўвае "сутнасныя ўзаемасувязі часавых і прасторавых узаемаадносін, мастацкім спосабам асвоеных у літаратуры" (М.М.Бахцін), — хранатопам. Гаворка ідзе пра аб'ект прыроды, што аказаўся самай вялікай, пажыццёвай паэтавай любоўю — раку. Для яго гэта не толькі якаясьці канкрэтная Прыпяць, Друць, Сож ці Днязро, а ўвасабленне часу, прасторы і нават у нейкай ступені ўласнага лёсу. У прадмове да зборніка "Ревность" Шклярэўскі засведчыў вышэйзгаданае такімі словамі: "У каждого поэта есть свое, почти физическое ощущение времени. Для меня это река. Чувство виноватой благодарности — уходящему, убегающему, пропадающему за горизонтом...". Вобраз Ракі пранізвае ўсю творчасць паэта. "Пачуццё вінаватай удзячнасці" выплеснулася ў дзесятки шчымлівых твораў, прычым не толькі паэтычных. Рацэ прысвечаны, напрыклад, яго лірычныя аповесці, многія публіцыстычныя артыкулы. Няхай у цэлым у іх дамінуе высакародная ідэя абароны прыроды, аднак думка пра душэўную роднасць з Ракой таксама стаіць там далёка не на апошнім месцы. Яго лірычны герой зусім не спажывец рачных багаццяў. Ён успрымае Раку як часціну свае душы. Магчыма, таму так натуральна гучаць радкі фінальнай часткі яго паэмы "Летописец реки...":

*Однажды, пройдя сквозь песок,*
*я медленно вытек из глины,*
*не ведая, кто я такой,*
*Не помня язык человечий,*
*Был синий задумчивый вечер,*
*В полях я струился рекой.*

Зварот Шклярэўскага да Ракі юнацтва — не проста сентыментальная спроба ўзнаўлення рэха былога пачуцця, гэта своеасаблівае падсвядомае супрацьстаянне стратэ часу, рацэ часу. Як бы там ні было, але чалавек не хоча мірыцца з думкай пра канечнасць жыцця. Паэт — перш за ўсё чалавек, таму, у каторы раз апісваючы лірычнага героя маладым, а Раку — чысцюткай, ён падсвядома выступае супраць наканаванага лагічнага жыццёвага фіналу.

Не толькі канкрэтна праз вобраз Ракі, але праз карціны і вобразы ўсёй прыроды імкнецца выявіць свой унутраны свет Ігар Шклярэўскі. І гэта з'яўляецца адказам на пытанне, чаму ў яго вершах "так мала людзей". Ён гараджанін і, вядома, успрымае жывую прыроду зусім не так, як патомны вясковец, г.зн. не як яе гаспадар і законны спажывец. Ён надзвычай далікатны ў стаўленні да яе, ён — нібы галінка вярбы, выпадкова ўторкнутая ў вільготны бераг Дняпра. Пагодзімся, мала хто з нас можа вось так нязмушана-будзённа праказаць: "Я руки вытру о траву, / из лодки вычерпаю воду, / зажгу смолу и уплыву / в свою зеленую свободу...". Дачыненні паэта і прыроды ў нашым выпадку — адзін з самых яркіх прыкладаў узаемнага даверу і ўзаемнай павагі. Па ступені адкрытасці і павагі з такімі адносінамі здольны сапернічаць, бадай, толькі язычніцкі анімізм.

Сям'я — наступная скразная тэма творчасці Ігара Шклярэўскага. Далікатны дотык да аголенага нерва — вось што азначаюць для паэта вершы, прысвечаныя бацькам. Падчас першага іх прачытання ўзнікае ледзь акрэсленае пачуццё прэтэнзіі, адчуванне чагосьці "няправільнага", маўляў, не так трэба пісаць пра сваіх родных. І сапраўды, паэт у іх надта ўжо імкнецца стрымаць пачуцці, прычым іншы раз да такой ступені, што ад слоў павявае халадком. Нам здаецца, прычыну трэба шукаць не толькі ў асаблівасцях яго асабістай біяграфіі і сямейных узаемаадносін, разважаць пра якія мы наўрад ці маем маральныя правы, а найболей — у этасе яго паэзіі. Творчасці Ігара Шклярэўскага чужыя пафаснасць, адкрытая пачуццёвасць, яна "даходзіць" да нас праз аднаўлянае прыняцце тэмы, асэнсаванне дэталяў і — праз глыбіннае суперажыванне (на якім, дарэчы, зусім не настойвае нешматслоўны аўтар, але чаго прагне лірычны герой). Толькі тады, калі мы за знешняй бясстраснасцю слоў адчуваем унутранае напружанне радка, нам становіцца блізкім і зразумелым затоенае сыноўскае пачуццё:

*— Поспи, — говорила мать.*
*— Вставай! — говорил отец.*
*— Поешь, — говорила мать.*
*— Учись! — говорил отец.*
*Приеду. Слова все те ж,*
*да только не все слова.*
*Осталась: — Поспи, поешь...—*
*А следом шумит трава.*

Пафас элегічнасці — характэрная прыкмета "дамашніх" вершаў Шклярэўскага. Гэта можна з пэўнасцю казаць у дачыненні да "Хроники счастья", "Рождения брата", "Отца и матери", паэмы "Гость" і інш. Магчыма, толькі адзін з такіх твораў, прысвечаны малодшаму брату Алегу, з'яўляецца жыццярадасным і настраёвым. Ён, дарэчы, уражвае не толькі зместам, але і формай: "Мой младший брат меня сильнее, / мой младший брат меня умнее, / мой младший брат меня добрее, / решительнее и храбрее!". З верша бачна, што брат для паэта — адзін з нямногіх людзей, каму можна давяраць, прызнацца ў патаемным. Невыпадкова адна з паэтычных кніг Ігара Шклярэўскага носіць назву "Брат" (М., 1982).

Яшчэ адной тэмай, пра якую можна гаварыць як пра "скразную", стала тэма горада. У паэта некалькі любімых гарадоў. Гэта і Бялынічы ("...Был холод и голод. И маленький город / лопатою ржавой в полях ковырял...", і Крычаў ("... Проснешся — на твоем веку / словами «Слова о полку» / там разговаривают хаты...", і Слаўгарад ("В Пропойске — май! Коза жует афишу. / Луга и поймы девственно-чисты. / Совсем не жаль того, что не увижу, / мне жаль того, что не увидишь ты...". Гэта і вёска Баркалабава, што стала шчымлівым успамінам ранняй маладосці ("На голове было больше волос / и в Баркалабово больше берез...". Але найболей твораў прысвечана Магілёву. Любоў да горада юнацтва Шклярэўскі пранёс праз жыццё. І нават цяпер, калі ўжо нічога яго з Магілёвам фармальна не звязвае, горад па-ранейшаму застаецца адным з найдаражэйшых яго ўспамінаў. Настальгія прарываецца ў рытарычных зваротах да яго будынкаў, вуліц, дамоў ("Могилевский старинный вокзал, / сколько раз ты мне душу прознал, / черным дымом меня обнимал / и баянами вдаль провожал!..", у лаканічнай, але ад таго не менш несуцешнай канстатацыі змен, якія адбыліся з роднымі мясцінамі за параўнаўча нядоўгі час: "Люди другие, и город не тот. / До Баркалабово шел пароход, / но незаметно река обмелела. / Только полынь на обрыве растет! / Как от бульдозера уцелела?". Паэт спачувае людзям, якія не збераглі стaрадаўняе аблічча горада, якія самі разбуралі яго святыні. Горад для яго — такая ж часцінка душы, як Рака, як прырода ў цэлым. Вырві з душы горад — і яна невылечна захварэе, загіне.

Акадэмік Д.С.Ліхачоў, дружбай з якім паэт даражыў і якому прысвяціў шмат праніклівых радкоў, пісаў: "Талент — гэта адзінае ў чалавеку, што заўсёды працуе на сваім узроўні". У Ігара Шклярэўскага адметны талент.Думаецца, прыйдзе час, калі даследчыкі творчасці нашага земляка ўголас прызнаюць, што ён здолеў перадаць у сваёй паэзіі і свежае дыханне магілёўскай зямлі, і бруістую плынь магілёўскіх рэк, і адкрытую душу магілёўскіх людзей. Яно ж так і ёсць насамрэч. Як ёсць яшчэ, нягледзячы на немалады век ды фізічнае нездароўе, неадольная жыццёвая сіла і ўпартае імкненне стварацъ:

*Донашиваю пиджаки, рубахи,*
*живу в каком-то полудетском страхе,*
*не умереть боюсь — боюсь не быть.*
*Донашиваю жизнь свою земную,*
*но мокрый клен и лужу золотую*
*так не умеет молодость любить.*

**Сяргей УКРАІНКА**



# 13-я ПАЛАСА



Уладзімір МАРУК

## ПЛЯШКА, МАНАШКА І МАШКА

*...Я стаў чужым,*
*як выпітая пляшка,*
*Што ля дарогі пад кустом*
*ляжыць,*
*Дзе час ідзе спакусна, як манашка,*
*Якую нельга, як віно, любіць.*

*Яшчэ хачу манашку спакусіць...*

Віктар ШНІП

Вунь пад кустом ляжыць бамжыха
Машка,
Які ўжо дзень "бязхозная" ляжыць,
Яна, нібыта выпітая пляшка,
Якую без віна —
за што любіць?!

Ды Машка, я скажу вам,
не манашка,
Якую нельга, як віно, любіць...
Як будзе пляшка —
знойдзецца і Машка,
Што можа,
хоць і ў вершы,
спакусіць.

## САТАНА

*Мне даспадобы ліхтары*
*І сёстры Бога — прастытуткі.*

Л. ДРАНЬКО-МАЙСЮК

Казаў мне дзед адзін стары,
Які здавён збірае чуткі,
Што ёсць на свеце штукары,
Якім да сэрца — прастытуткі.

Я больш паэт, чым той штукар,
Але і мне цікава стала:
Хіба ж ён праведнік, ліхтар,
Калі яна пад ім стаяла?

Я пад ліхтар падаўся ў сквер, —
І трэба ж, прагнасць развярэдзіў, —
Ды сатана, заморскі звер,
Мяне, як бачыш, апярэдзіў.

І тут заморскага стае,
Хоць і сваёй брыды хапае...
Казалі — сатана дае...
Дае... а потым забірае.

Павел САКОВІЧ

### ЧАСОПІС "МАЛАДОСЦЬ"

Яму мінула аж паўвека.
Мо гэта шмат для чалавека,
А для яго — дзе старасць тая! —
Настала маладосць другая.
І як ад стомы ратаванне —
Другое, творчае, дыханне!

### ГАЗЕТА "ЗВЯЗДА"

Аўтарытэтная здаўна,
Яна глядзіць наперад зорка.
Пашану зведала спаўна
"Звязда" — нягаснучая "зорка".

### ЧАСОПІС "НЁМАН"

Ой, "Нёман", "бацька" рускамоўны,
Хоць шлях твой звілісты, няроўны,
Нясеш ты плынь літаратуры
На мове братняй у натуры.

Вось толькі б трохі болей ласкі
Да перакладаў з мовы наскай...

### ТЭЛЕБАЧАННЕ

Парою дзённай ці начной
На ўсё мы маем позірк свой,
Сваё праблемаў бачанне
Вачыма... тэлебачання.

### ЧАСОПІСЫ "ВОЖЫК" І "АЛЕСЯ"

Дзеля "Алесі" і Тамары
Гатовы "Вожык" на ахвяры:
Любімай даме на заколкі
Аддасць апошнія іголкі.

### ЧАСОПІС "ПОЛЫМЯ"

Гарыць твой рукапіс, ці не,
Дазнацца можаш ты ўпаўне:
Вазьмі аднойчы рызыкні
І ў "Полымя" яго шпурні...
Калі сыры, дык, можа быць,
Хутчэй сатлее, чым згарыць.

### ГАЗЕТА "ЧЫРВОНАЯ ЗМЕНА"

Прапаў былы ажыятаж —
Стаў мінімальны твой тыраж.
Ну што рабіць, куды пайсці?
Мо спонсара сабе знайсці?
Ці пашукаць, як маладой,
Апекуна, што з барадой?
І вось пашчасціла — ура! —
Займела ўсё ж гаспадара.
І нарадзілася — зусім другой —
Пад зоркай шчаснаю — "Звяздой"!

### ЧАСОПІС "БЯРОЗКА"

Яна — як маці дзецям нашым.
Навучыць і паесці дасць:
Бярозавай карыснай кашы
І соку — кашу запіваць.

### ТАА "КОМСІС"

(пастаўшчык паперы)

Пісьменнік ты, ці графаман,
Яшчэ курчавы, ці ўжо лысы,
Каб твой заўважылі раман,
Набудзь паперу у "Комсіса"!

## КОЎЗАНКІ

•

— Чаму прадаўцы размаўляюць груба? А чаму яны абавязаны паводзіць сябе чынна? У нас усё механізавана: "Дзякуй" кажуць вам машыны, "дзякуй" выбіта на чэку, што вам яшчэ трэба, мужчына?

•

Цяпер для адзетку ўлётку хопіць і валейбольнай сеткі. Выклікаюць у модніц сумненне пакуль футбольныя трусы як адзенне.

•

Казала прадаўшчыца квасу: калі нада мною восы, — квас, — першага класу, калі мошак рой завіс, — квас скіс. Дык і вы, сябры мае кірпаносыя, не сярдуйце, калі вакол вас восы.

•

Карціну абстракцыяніста павесілі дагары нагамі. Мастак не пакрыўдзіўся: разбяруцца самі. Абстракцыя — гэта акцыя. Вось і на маім палатне жывых істот няма, бо яно пра радыяцыю.

Міхась РАПІРА



## АД НЕНАГЛЯДКІ — БЕЗ АГЛЯДКІ

(паводле Міколы Шабовіча)

Калі ў жыцці
Не ўсё так гладка —
Мяне суцешыць
Ненаглядка.

Яна маім
Спрыяе марам
Спакусных вуснаў
Ганарарам.

А зловіць жонка —
Без аглядкі
Дам драпака
Ад ненаглядкі!..

## ТУРЭМНЫ СОН

(паводле Анатоля Зэкава)

Мяне, як дуэлянта, —
Не да жартаў, —
Раптоўна
У турме замкнула
Варта.

Маёй крыві
Не хочацца народу.
Крычаць плакаты:
"Зэкаву — свабоду!.."

Прачнуўся раніцай —
Нікога ля акон.
О як цудоўна,
Што ўсё гэта —
Толькі сон!..

## САЛОДКІ ГРЭХ МІХАСЯ ПАЗНЯКОВА

Нашае шчасце, як знічка, кароткае,
Хмельны ў духмяністым садзе наліў?

Міхась ПАЗНЯКОЎ

Змей спакусіў!..
Я спаткаўся з малодкай
І з-пад сукенкі лістоў агаліў
Яблыкі два
палахліва-дрыготкіх,
Хмельны
ў духмяністым садзе
наліў.
Белаю веяй
закружацца плёткі,
Дзе я свой голад
усмак наталіў.
А за мой грэх
хай адкажа салодкі,
Хмельны
ў духмяністым садзе
наліў.

Анатоль ЦЫРКУНОЎ

## КАМЕНЬЧЫКІ НА ДАЛОНІ

•

Увесь дзень у шапку жабрака
Сыпецца міласціна.
У выглядзе камякоў снегу.

•

Пераждыў многія рэкі
У якіх плаваў.
Няўжо жыву так доўга.

•

Бойкі стрыж выгнаў з гнязда
Сціплага верабейку.
І ў птушак нораў як у людзей.

•

З аднаго кавалка дрэва
Разьбяр выразаў
Ангела і чорта.

•

На ўласнае вяселле,
І чарапаха
Спяшаецца як можа.

•

Ранняя вясна.
Пяюць па начах каты,
Як оперныя тэнары.




•

Як калісьці мілы Максім,
І я любуюся Венерай.
Не састарэла прыгажуня.

Малюнкі Паўла КАРПОВІЧА.

чырвоных ботах. Дзядзьку было смешна, а мне, малому, не.

Хату тую перавезлі на хутар у 38 годзе – гэта ўжо сказаў дзядзька, прыязджаючы з Польшчы. Яна стаяла на грудку, падмытым Ятранкаю, каля шырокае затокі з тоўстаю старою алешынаю, дзе пад карчамі вялася выдра і паіла шчанят. Яна, хата, згарэла ў 41-ым. На хутары, як знак даўняга, сёння ўздымаюцца бярэзіны, наўкола якіх падсадзілі малады хвойнік чатыры гады назад.

Ніна ўчора прынесла "Нюрнбергскі працэс", 7 том, дзе надрукавана астатняе слова падсудных. Хацеў яшчэ раз прачытаць Рыбентропа і [неразб.].

**Нядзеля, 16 красавіка 1978 года.**

Пасля ўчарашняга дажджу схаладала. Голая, неапранутая і панурая вясна. Смутны свіст шпака. Ледзь-ледзь зеляніць каля рэчкі балотца.

Учора прыходзіў Слава. У Наваельнянскай бальніцы ён дамовіўся з доктарам, што там можна будзе пераліць плазму. Паглядзімо, што дасць мне тутэйшая бальніца. Покуль што нічога. Чую боль. Нядобрыцца. Таблеткі – гэта не лекі.

**Панядзелак, 17 красавіка 78.**

Цэлую ноч не спаў. Заснуў пад раніцу, а ў 6 ужо разбудзілі. Зноў, як і ўчора вечарам, праз кожныя дзесяць хвілін глытаў таблеткі і запіваў салодкім чаем.

Прынеслі ў палату снеданне. Я мушу галадаць – рэнтген печані. Пры маёй цяперашняй вазе (61 кг) суткі не есці – нешта ды значыць. Ці не пара дадому? Лекаў ніякіх. А таблетку но-шпы праглыну і там. Жонка жыва не была б, каб не загнала мяне сюды. Лекі трэба шукаць самому, менш слухаць іншых. Чужая рада не заўсёды на карысць, болей на шкоду. Ці, як кажа народная мудрасць, на чужыя хваробы кожны доктар.

**Аўторак, 18 красавіка 1978 года.**

Нарэшце, пасля абыходу хірурга з яго світаю, мне назначылі капельніцу і плазму. Глюкозу з вітамінам – аж два слоікі – улілі ўчора. Сёння, відаць, пасля снедання зноў.

Пагодны, парны дзень пасля ўчарашняга дажджу, што пакінуў на зеленаватым балотцы пры рэчцы сінія лужыны. Учора грымела разоў са тры. Бліскала маланка на сівой хмары. І ліў спорны дождж. Пад вечар, калі распагодзілася, на чорна-карычневых ліпах шчодра паблісквала дажджавая раса. Ясна і неяк першародна зазеленелі лагчынкі.

Сіва-густыя вербы каля сцішанае поўнае рэчкі. Мокры сінявата-цёмны асфальт.

Цягне куды-небудзь ісці ці ехаць. Пад гэтым парным сонцам.

Капельніца... Успомнілася далёкае даўнейшае лета. Жыта, што выпусціла колас. Мяжа зялёная. Яснае сонца. Шэпт жыта. Нават не хацелася даваць веры, што я ўсяго на ложку. І блізкае гуканне паравозу зноў вярнула мяне ў жыта, у ціхі і чуць ласкавы шэпт. У сіняе неба. І чуеш нат, як пахне прэснаю зялёнаю травою.

Раздзел для "Года нулявога".

Рэчачка. Кладка. Няскошаная сенажаць. Маладая яшчэ. Пастух. Каровы каля алешніку. Баба ў белы хвартух збірае шчавей.

Яна і ён. І маладое жыта, і зялёная мяжа.

Хрысця – яна.

Гогаль, як расказвае П.Анненкаў, пісаў стоячы, і пісьменнае бюро было ў яго рост. Насіў "голубой фрак с золотыми пуговицами" . [неразб.] чытаць першыя раздзелы "Мёртвых душ". Сшытак паштовай паперы "восьмушку". Ніна прынесла першы том "Дзённіка" А.В.Нікіценкі.

**Серада, 19 красавіка 1978 года.**

8 гадзін па-маскоўску. Пагодная раніца. Сонца заліло шарыя, жоўтыя, чырвоныя будынкі з цынкавымі дахамі. Танюсенькі свіст пташачкі.

Учора мо да гадзіны не спаў. Папрасіў у сястры лякарства – не памагло. Боль схапіў у гадзін восем, пасля вячэры. Божы свет быў нямілы.

Сёння радасць, што адлягло. Гляджу праз акно на заліты сонцам горад, сляпну ад яснасці, і цягне адсюль прайсціся маладою, што дрыжыць і паблісквае на сонцы, травіцаю, каля рэчкі, па сухім леташнім лісці, каля зялёнае <цыліндры> ў алешніку, што распусціў свае карычневыя вялыя таўкачыкі, каля пясчанага берагу, дзе ўжо расплюшчыла жоўтае вочка першая кветка падбелу.

Першая зелень лагчынак, першая зеленкаватасць агрэсту ў гародчыках, цыбулі, касачоў. Аблітыя клейкім сокам, набрынялі почкі ў каштана. Зялёная дзяцелінка каля сцежкі.

**Чацвер, 20 красавіка 1978 года.**

Выйшаў на двор. Першы раз на азыраваты халадок раніцы. На нізенькай вострай мураве блішчыць раса. У ёй шалпочацца зеленаваты стракаты шпак – дзярэ

прыспешваюць і мае гады. І колькі сілаў і моцы адабрала хвароба. Я зблажэў, счах і толькі існею на свеце. Як страсянуцца, атрэсці з плячэй смутак, нэндзы, хваробы.

**Нядзеля, 23 красавіка 1978 года.**

Чуюся кепска. Зноў ноч без сну. Я чырвоны як рак. Алергія не прайшла. Трэба, відаць, збірацца дадому. Калі будзе плазма, то толькі прымаць яе, ад усіх астатніх лекаў трэба адмаўляцца.



З Гродзенскімі літаратарамі. 1981 г.

леташнюю траву і нясе ў жоўценькую новую клетку на голай ліпе.

Учора грымела зноў – зноў на цяпло. Сёння з раніцы туман. Уночы не спалася.

Для "Ценю ад штыха".

41 год. Бежанцы. Ішлі ўтрох: Шкраба – студэнт, з пашпартам, дакументамі – і двое, што ўцяклі з-пад канвою: Бярозкін, зарослы, нягалены, без ніякіх дакументаў. Праверка. Ледзьве паверылі.

У вёсцы гаспадар: "Калі будзеш есці сырую бульбу – еш. Усіх не накорміш." У другой хаце далі кіслага малака з хлебам. Цётка: "Хай есць маленькі." Гэта пра кульгавага Шкрабу. Дала нават сырых яек. Ішоў, трымаючыся за кішэні. Начавалі ў царкве. Поўна людзей, крык сярод ночы: "Нас прадалі! Дзе ўрад?" У вёсцы папрасілі бульбы. Пачалі варыць каля сельсавета. Пачалася паніка: "Дэсант!". "Уцякайце, я ведаю, яны кінуцца сюды", – старшыня сельсавета.

Нямецкія самалёты кідаюць каля шашы бомбы – на тэлеграфны дрот, на слупы.

**Пятніца, 21 красавіка 1978 года.**

Доўга не мог заснуць. Зноў у мяне няма сну. Зноў ледзьве жывы раніцаю.

Сёння – рэнтгенаскапія. На ліха яна мне. Хоць ад глюкозы і рынгера (раствор солі) трохі акрыяў. Плазма, здаецца, саўсім вылечыла б. Група крыві III (Б), рэзус дадатны – гэта трэба запомніць, мо калі прыдасца.

За акном – пагодны дзень. Зеляніць скрозь маладая вострая трава. Дзяцелінка, крапіва, валаснік нават расце на бальнічным двары. Каля падрубы, дзе ў зацішку цвітуць жоўценькія адуванчыкі, падбел. Бэз разгарнуў зялёныя почкі. Над рэчкаю пачынаюць значыць зеленаватасцю шарыя купы вербаў.

**Субота, 22 красавіка 78 года.**

Зноў пракідаўся ўсю ноч, зноў не меў сну.

Пасля учарашняй гастраскапіі, пасля чорнага, як змяя, шланга, што запіхаюць табе ў жывот і круцяць там яго, пераварочваючы кішкі, пасля замарозкі баліць горла і гоніць сліну.

Учора ўлілі і плазму. Растрывожылі мяне [неразб.], аж паднялася вечарам тэмпература – 37,2.

Сёння зноў пагодная раніца пасля яснай месячнай ночы. Поўня ўсю ноч глядзела ў акно і нават закацілася на захадзе, чырвоная і вялікая, як сонца.

Думаю збегаць сёння дадому, памыцца.

Пасля полудня на грудзях і жываце выступіў трут, чырвоны і дробненькі, як мак, на плячах і жываце. Лякарстваў прыпісалі мне занадта шмат – ад глюкозы, што ўліваюць у вену, да размаітых уколаў і таблетак. Сёння наначай не п'ю нічога. Перад абедам прыходзілі Жук з Кудраўцом – прынеслі карэктуру "Чужое бацькаўшчыны". Балазе будзе чым заняць час. Па рабоце, па сталу, па чыстай паперы я тут занудзіўся. "Год нулявы" так далёка адышоў ад мяне, што жыву толькі хваробамі. А час прыспешвае,

На дварэ бярэцца ва ўсю моц вясна. Зеляніць балотца пры рэчцы, зазеленеліся, выпусціўшы таўкачыкі, шарыя вербы, і таполі на сваіх <?вяршках> выкруцілі шылаватае лісце. Набрынялі і выпусцілі зморшчаныя хвосцікі <лісця> бярэзіны. Узялася расці каля плоту і падруба цёмна-ліловая крапіва.

Зноў уколы і капельніца на гадзіну.

У абед прыходзіла Ніна, прынесла мне касцюм і туфлі, і я памаленьку выбраўся дадому. Слабасць навалілася. Памералі тэмпературу – 38. Мусіў вярнуцца ў бальніцу. Гэта вылазіць мне бокам учарашняя [неразб.] з хлопцамі. Я ўстыў у ногі. Значыць, прыдзецца паваляцца яшчэ тут, у бальніцы, а збіраўся пагаварыць з доктарам наконт выпіскі.

22.00. Ясны жаўтлявы месяц. Невысока над горадам і кругом яго жаўтлявы, як ад слабое батарэйкі, арэол. Няўжо на мароз?

Тэмпература трымаецца 37,5. Няўжо ад алергіі? Але ў мяне баліць галава і горла.

Прачытаў Смелякова пра смерць Маякоўскага. Шмат злосці, не ўсяму веруш. Дзівіць толькі тое, што Брык пры жывым мужу, Восіпу Брык, лічыла сябе ўдавою Маякоўскага і палучала за яго кнігі ганарар, палову толькі аддаючы мацеры і сёстрам Маякоўскага. Страшны парадокс.

Зрабілі ўкол проці алергіі – [неразб.] і далі таблетку аспірына – можа зніме тэмпературу.

**Панядзелак, 24 красавіка 1978 год.**

Тэмпература, здаецца, спадае. Хоць усяго трасе. Нервы. Ніякіх таблетак учора не піў. Знікае трут. Можа, мне палепшае. Чую толькі млявасць. Пацею. Сёння абход. Што скажа Філіповіч? Калі іншых лекаў, акрамя таблетак, не прыпішуць, буду на гэтым тыдні прасіцца дадому. Стаяць пагодныя дні. Пачынае ўсё зеляніць. На нашым двары дома выпусціла лісце грабінка.

**25 красавіка 1978 года.**

З захаду на горад паўзе сіняя, з папялявымі шызымі краямі, вялікая хмара. Грукоча гром. На ёй сполахамі бліскае маланка. Усё сцішылася. Натапырыліся жаўтлява-зялёныя рэдкія яшчэ таполі. Ізноў крэсліць хмару маланка. Барабаніць па шкле косы дождж. І пасыпаўся град. Негусты, бойны. І скора кончыўся. Зялёная трава стракатая ад белага граду, як камкоў ваты.

Ізноў глядзіць сонца. І стаяць ціхія рэдзенька жаўтлявыя таполі. Яснее толькі зялёнае балотца і зеленаватыя ўжо пагусцелыя купы вербаў. І распускаецца бярэзінка.

*Малісы цёплы пах,*
*Рахманы звон пчалы.*
*На ўвязаных снапах*
*Калыша воз малых*

*<Пад Бялявых лі*
*[неразб.] збан*
*Гладышык у снапах*
*Жнівы*
*Жніво>*

**Серада, 3 мая 1978 года.**

Нясвіж, санаторыя.

Прыехаў сюды, у даўнейшы радзівілаўскі замак, перад абедам. Абышоў яго каля вала, дзівячыся на дзікіх качак – ці не крыжанак? – што плавалі тут, у зялёнай канаве, не баючыся людзей; схадзіў на грэблю, абсаджаную старымі, яшчэ голымі ясенямі і клянамі, але сіверны лядовы вецер, што расшугаўся над возерам, прыгнаў мяне ў палату, дзе і сяджу, бачачы з акна дзядзінец жоўтага замка, засаджаны цёмна-зялёнымі елкамі.

Халадная вясна. Нізкія сіверныя хмары сеюць дождж. Хоць на зялёным балоце цвіце жоўтая слепата і дробным лісцем абсыпаныя бярэзіны. І скрозь па лесе зазеленелі маладыя грабінкі. Зялёнае жыта і зялёная канава каля шашы.

Заўтра пачынаюцца лекі.

**Чацвер, 4 мая 1978 года.**

5 гадзіна вечара. Сяджу на беразе азярца ў маладой зялёна-ліловай крапіве і жаўтлява вострай асацэ. Ад мяне, ціха чыркаючы – кра-кра, – адплыўся карычняваты з чорна-зялёнай шыяй качар, паплыў у спалавелы, з сівавата-шарымі мятлушкамі, троснік.

Сіня-цёмная, рабенькая, спярэшчаная ветрам роўнядзь вады.

На зялёнай грэблі жоўтым кропам зацвілі старыя высокія кляны, толькі шурпатыя і голыя, як паўсыхалыя, ясені.

Сухі шоргат трэснікy пры беразе. Перасвіст і шчэбет шпакоў на чорных алешынах. Выпусціўшы зялёныя каткі і дробнае лісце, рэдзенька зеляніць старая, нахіленая, як у песні, над сіняй трапятлівую вадою старая вярба. Чыстае сіняе неба і глыбокае сонца за спіною над вежамі радзівілаўскага замка.

Харавство адзіноты ці адзінота з харавством вясны. Няхай Бог благаслаўляе гэтую хвілю. Крык гракоў над чорнымі гнёздамі. Густы брэх сабакі ў шарых, цагляных, пад шыферам хатах.

Зрабіўшы круг, да мяне зноў з густым чыркannем – чыр-чыр-кра-кра – падплывае прыгожы, з жоўтым дзюбам, зялёнай, што паліскаецца, шыяй, шары селезень. Грабе жоўтымі ножкамі ваду, гонячы перад сабою дужку хвалі.

Пара халадоў – ветру і дажджу.

Цвіце белая, з жоўтымі тычынкамі, слепата, і зеляніць пры вадзе смароднік – чорныя парэчкі.

**(Працяг у наступным нумары)**



З Алесем Разанавым.

